ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ
КУДЫ ВЯДЗЕ ДАРОГА З ТОГА? 3 стар.

900-годдзе ДАВЫД-ГАРАДКА 2 стар.

МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ
РАЙСКІ КУТОК СЯРОД ЗАПУСЦЕННЯ 2—3 стар.



НАТАТКІ Яўгена ЛЕЦКІ
"АСТРАЎКІ БЕЛАРУШЧЫНЫ НА УКРАІНЕ" 5 стар.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖПРЭМІІ
КАМПАЗІТАР Алег ХАДОСКА 4 стар.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ
ЛІДСКІ ПРАЕКТ У ІЗРАІЛІ 6 стар.



ПАДАРОЖЖА Ў БАЛГАРЫЮ РАЗАМ З "БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ" 7 стар.





ГАСЦЁЎНЯ
Уладзімір ДРОЗД — ПАРТНЁР 63-гадовага "ЭМІГРАНТА" З АМЕРЫКІ 8 стар.

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

18 кастрычніка 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 42 (2704)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

## АФІЦЫЙНА

**НІХТО З ПРАДСТАЎНІКОЎ ЮГАСЛАЎСКАГА КІРАЎНІЦТВА НЕ ЗВЯРТАЎСЯ ДА КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ З ПРОСЬБАЙ АБ ПРАДАСТАЎЛЕННІ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫСТАНІШЧА.** Пра гэта заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю журналістам у Мінску. Ён сумняваецца, што С. Мілошавіч звернецца з такой просьбай да якой-небудзь дзяржавы.

**НАЦБАНК БЕЛАРУСІ КАТЭГАРЫЧНА АБВЯРГАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ТЫМ, ШТО С. МІЛОШАВІЧ ПЕРАВОДЗІЎ ГРОШЫ Ў МІНСК.** У Нацыянальным банку Беларусі катэгарычна абвяргаюць паведамленне некаторых замежных сродкаў масавай інфармацыі аб тым, што Слабадан Мілошавіч перавёў буйную суму грошай у Мінск. Пра гэта карэспандэнту БелТА паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі галоўнай фінансавай установы краіны.

**БелТА.**

## МЫТНЫЯ ПЛАЦЯЖЫ

**ВЫМУШАНАЯ МЕРА.** З 1 кастрычніка юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі ў сувязі з Указам Прэзідэнта ад 31 жніўня 2000 года № 480 і пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 верасня 2000 года № 1383, прывозячы ў нашу рэспубліку з Расійскай Федэрацыі тавары, якія паходзяць з трэціх краін, павінны будуць прайсці мытны кантроль і мытнае афармленне тавараў. Для фізічных асоб працэдура афармлення дзейнічаць не будзе. Па словах намесніка старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Гошына, гэта вымушаная мера, якую зараз неабходна ўвесці. "Гэта перш за ўсё далейшая уніфікацыя мытнага заканадаўства Беларусі і Расіі, намер забяспечыць больш поўнае паступленне грошай ад мытных плацяжоў у дзяржаўны бюджэт, абараніць інтарэсы нацыянальнага вытворцы, стварэнне роўных канкурэнтных умоў для суб'ектаў гаспадарання Беларусі і Расіі, узмацніць барацьбу з нядобрасумленнымі ўдзельнікамі знешнеэканамічнай дзейнасці. У нашу рэспубліку кожны год увозіцца з Расіі тавараў, выраблены у трэціх краінах, больш чым на 200 мільёнаў долараў. Усе яны мінуюць мытны кантроль, з-за чаго мы нясём значныя страты. Гэты прабел неабходна ліквідаваць. Але ж на Мытным саюзе і Саюзе Расіі і Беларусі гэта ніяк не адаб'ецца. Пастоў на мяжы з Расіяй ніхто ставіць не збіраецца. А відавочна тое, што даходная частка бюджэту нашай краіны павінна павялічыцца".

**Андрэй САМЕЦ.**

## СТОП-КАДР



## АБ'ЯВЫ

### НЕРУХОМАСЦЬ
#### ПРАДАЕЦЦА Ў МІНСКУ

- **2-х пакаёвая кватэра (вуліца Баграціёна) — агульная плошча 58,3 кв. м.; жылая 32 кв. м.; кухня 7,2 кв. м.; санвузел раздзельны; 9 паверх 10-павярховага цаглянага дома 1976 года пабудовы; цана эквівалентная 16 тысячам $.**

- **4-х пакаёвая кватэра (вуліца Варанянскага) — агульная плошча 59,0 кв. м.; жылая 41,6 кв. м.; кухня 6,2 кв. м.; санвузел раздзельны; 5 паверх 5-павярховага панэльнага дома 1972 года пабудовы; цана — 14 тысяч долараў.**

- **1-пакаёвая кватэра (праспект Ракасоўскага) — агульная плошча 33,0 кв. м.; жылая 17,0 кв. м.; кухня 7,2 кв. м.; санвузел раздзельны; 5 паверх 9-павярховага панэльнага дома 1987 года пабудовы; цана — 8 тысяч долараў.**

*Тэлефон для даведак у Мінску 853-599.*

## МЕРКАВАННЕ

# СПРАВЫ САРДЭЧНЫЯ



У Мінску прайшоў з'езд кардыёлагаў. Ягоная тэматыка актуальная не толькі для медыкаў, але для кожнага з нас. Прычына гэтага — вельмі вялікая распаўсюджанасць хвароб сэрца і сасудаў у свеце і ў нашай краіне. У Беларусі налічваецца каля паўтара мільёна гіпертонікаў і 700—800 тысяч чалавек, якія пакутуюць на ішэмію.

Штогод 15 тысяч чалавек у нашай краіне атрымліваюць дыягназ — інфаркт міякарда. Пры наяўнасці хворых, якім неабходна медыкаментознае лячэнне, ёсць шмат людзей, жыццё якіх напрамую залежыць ад таго, будзе яму зроблена аперацыя ці не. Да апошняга часу чарга на яе сярод кардыялагічных хворых цягнулася да 2006 года. Але на днях пачаў працаваць новы кардыяхірургічны модуль, з'явілася дадатковае сучаснае абсталяванне. Ёсць кваліфікаваныя медыцынскія кадры. Па словах дырэктара Інстытута кардыялогіі прафесара Мікалая Манака, калі фінансавыя магчымасці дазволяць працаваць у дзве змены, чарга на аперацыю значна зменшыцца ўжо да 2003 года.

Хваробы сэрца, сасудаў — з'ява сацыяльная. Так лічыць прафесар, акадэмік Георгій Сідарэнка, які быў першым дырэктарам Інстытута кардыялогіі і займаецца сардэчнымі хваробамі 50 гадоў.

Усе ведаюць, што дзеля захавання свайго здароўя нельга есці шмат тлустага мяса, а трэба ўжываць больш садавіны і агародніны. Але ёсць нацыянальныя стэрэатыпы харчавання і ладу жыцця. Беларусы стагоддзямі елі смажаную свініну і бульбу. Пераадолець звыклы тып паводзін цяжка, тым больш, калі гэтаму не спрыяе матэрыяльнае становішча. Для нашай кішэні больш танна ўжываць сала, чым купляць баклажаны і персікі. Па статыстыцы, мы ядзім цытрусавых у пяць разоў менш, чым жыхары Заходняй Еўропы. У выніку няправільнага харчавання, малярухомага ладу жыцця кожны трэці мужчына пасля 30-ці гадоў — гіпертонік. Важны фактар тут і курэнне. Для прыкладу: Кітай — краіна вегетарыянцаў,

Заканчэнне на 2-й стар.

## ЗДАРЭННІ

**ПАЛІГОН РАЗЯВАКАМ НЕ ДАРУЕ.** Гэта трагедыя здарылася пад Бабруйскам. Адзін з жыхароў горада адправіўся па баравікі на палігон. А там у гэты дзень праводзілі вучэбныя стрэльбы са стралковай зброі. Аматар "ціхага палявання" пранік праз ахоўнае ачапленне ў небяспечную зону. Назбіраў грыбоў, але ўцячы не ўдалося. Яго знайшлі забітым побач з кошыкам грыбоў.

Як паведамілі ў Бабруйскай ваеннай пракуратуры, загінуў 39-гадовы прапаршчык запасу, які сам не раз страляў на гэтым палігоне і ведаў пра смяротную небяспеку.

## АНОНС

# ДОМ, У ЯКІМ НАРАДЗІЎСЯ Ян БУЛГАК, ЗНАХОДЗІЦЦА НА НАВАГРУДЧЫНЕ

Ян Булгак шырока вядомы ў свеце як майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, этнограф і фальклярыст. Для палякаў і літоўцаў яго творчая спадчына — нацыянальная каштоўнасць. У Беларусі Ян Булгак вядомы толькі ў абмежаваным коле фатог-рафаў, мастацтвазнаўцаў. А між іншым знакаміты фотамастак — наш зямляк: нарадзіўся ён на Навагрудчыне. Жыў і пачаў займацца фатаграфіяй на Міншчыне.



Прайсці сцежкамі жыцця Яна Булгака вырашылі члены фотаклуба "Мінск" Віктар Бутра, Юрый Васільеў, Уладзімір Няхайчык і аўтар гэтых радкоў. Што ўдалося знайсці падчас нашых вандровак па Міншчыне і Навагрудчыне, мы раскажам у бліжэйшы час. А сёння публікуем здымак дома ў вёсцы Асташына, дзе нарадзіўся Ян Булгак і пра які нічога не было вядома.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

# РАЗАМ З ПАЛЕШУКАМІ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА АДЗНАЧЫЎ 900-годдзе ДАВЫД-ГАРАДКА



Такіх невялікіх населеных пунктаў з багатай гісторыяй і традыцыямі ў нас нямала. Таму, паводле слоў Прэзідэнта, урад у самы бліжэйшы час павінен прыняць спецыяльную праграму па іх адраджэнню.

Галоўнай падзеяй юбілейных урачыстасцей стала адкрыццё скульптурнай кампазіцыі ў гонар унука Яраслава Мудрага князя Давыда, які ў 1100 годзе заснаваў крэпасць на беразе ракі Гарынь. Помнік зроблены ў Мінску ў майстэрні вядомага скульптара Леаніда Левіна.

Працавітыя людзі палескага краю праз стагоддзі змаглі захаваць сваю самабытнасць.

У гэтым годзе столінцы сабралі багаты ўраджай збожжавых. Пасняхова тут выконваецца і жыллёвая праграма. А сам раён — ледзь не адзіны рэгіён рэспублікі, дзе нараджальнасць намнога перавышае смяротнасць. І гэта пры яго аддаленасці ад вялікіх гарадоў, зусім не лепшых умовах побыту і сумнай спадчыне катастрофы ў Чарнобылі.

Тым не менш, раён развіваецца, мае добрыя перспектывы. Напрыклад, цяпер ад Брэста на Палессе цягнецца нітка магістральнага газаправода, па якім праз год-два прыйдзе прыродны газ і на Століншчыну.

Будуць прыняты адпаведныя меры і па вырашэнню тых пытанняў, якія ўзнялі непасрэдна гарадчукі. На працягу года будзе аднаўлена нармальная работа мясцовага электрамеханічнага завода. У былыя часы на гэтым канверсійным прадпрыемстве працавалі 1 200 чалавек, а цяпер засталося толькі 200. У густанаселеным рэгіёне гэта абвастрыла праблему занятасці. Вяртанне завода да жыцця, а праз год, адзначыў Прэзідэнт, тут павінна працаваць не менш як 1 500 чалавек, дасць магчымасць скараціць беспрацоўе. Зрэшты, як і наладжванне работы мясцовай птушкафабрыкі, развіццё перапрацоўчых вытворчасцей, выдзяленне ўсім жадаючым палешукам дастаткова кольтасці зямлі для вядзення гаспадаркі.

**БелТА.**

НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця помніка; сустрэча на століскай зямлі.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



**НА СЛЫХУ**

**У БЕЛАРУСІ РАСПРАЦАВАНА БАЯВАЯ МАШЫНА XXI СТАГОДДЗЯ.** Пра гэта першымі перадалі адразу некалькі расійскіх тэлеканалаў.

Як патлумачыў карэспандэнту "Звязды" дырэктар прадпрыемства "Мінатор-сервіс" Валерый Грабеншчыкоў, распрацоўка высокаманеўранай хуткаснай гусенічнай баявой машыны, прызначанай для вядзення глыбокай разведкі і дыверсійных аперацый, на іх прадпрыемстве была пачата па ўласнай ініцыятыве.

У выніку атрымалася баявая машына 2Т, роўнай якой няма на ўзбраенні ніводнай арміі свету. Так бы мовіць, беларускі цуд.

Прэзентацыя 2Т адбылася ў сакавіку мінулага года ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах на сусветна вядомай выставе "Айдэк-99". Машына выклікала вялікую цікавасць. Калі ўлічыць усе яе тактыка-тэхнічныя даныя — гэта натуральна. Лепшая з вядомых баявых машын замежнай вытворчасці, напрыклад, можа "заўважыць" праціўніка ноччу на адлегласці 800 метраў. 2Т пачынае агонь, калі да цэлі пяць з паловай кіламетраў!

Мець на ўзбраенні такую баявую машыну хацелі б многія арміі свету. Беларуская і расійская — не выключэнне. Вось толькі цана, мякка кажучы, кусаецца. Пакуль ні нам, ні суседзям 2Т не па кішэні. А некаторыя іншыя краіны (якія менавіта, вытворцы пакуль не гавораць) гатовы яе набыць. Спецыяльна вядзецца распрацоўка варыянтаў 2Т для халоднага і гарачага клімату.

**МЕРКАВАННЕ**

## СПРАВЫ САРДЭЧНЫЯ

**Пачатак на 1-й стар.**

але значная частка насельніцтва — заядлыя курыльшчыкі. Таму хворых на гіпертанію, ішэмію таксама шмат.

Адна з галоўных прычын высокага ўзроўню захворванняў сэрца і сасудаў, на думку Георгія Сідарэнкі, — сацыяльны фактар. Менавіта стрэс моцна шкодзіць здароўю жыхароў Усходняй Еўропы. Чалавеку няпроста прыстасавацца да хуткіх і частых сацыяльных змен. Калі апошняе вельмі цяжка змяніць, то нешта палепшыць у асабістым жыцці магчыма.

Па падліках медыкаў, сёння 86 працэнтаў насельніцтва Беларусі самастойна ці ў медустановах мерае артэрыяльны ціск. Кожны доктар абавязаны гэта рабіць, калі да яго прыходзяць на прыём. Выяўляюцца групы рызыкі, і з імі вядзецца работа. У выніку зніжаецца колькасць інваліднасці па гэтых захворваннях, смяротнасці. Для дасягнення значнага эфекту патрэбна шмат часу. ЗША дамагліся зніжэння кардыялагічных захворванняў шляхам прапаганды здаровага ладу жыцця, выяўлення больш схільных да павышэння артэрыяльнага ціску людзей — праз 20 гадоў. На Беларусі падобная кампанія вядзецца толькі 5 гадоў.

**Алена СПАСЮК.**

**МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ**

# РАЙСКІ КУТОК СЯРОД ЗАПУСЦЕННЯ



Пра ўзаемаадносіны дыяспары з этнічнай радзімай ішла гаворка з сябрамі кішынёўскай суполкі. Мы сустрэліся за круглым, у літаральным сэнсе слова, сталом у Доме нацыянальнасцей. І размова вялася па кругу. Кожны з прысутных ахвотна расказваў пра абставіны свайго жыцця. Але звяртала на сябе ўвагу тое, што Валерый Кез — былы вайсковец, Іван Заяц — навуковец, Вера Бляяева-Сугак — настаўніца, Сяргей Майсеенка — геолаг і ўсе іншыя гаварылі не толькі аб сваіх праблемах, але найперш пра тую грамадска-карысную справу, што абралі самастойна. Пра музей, які стварыў Уладзімір Вайцяховіч, ужо расказвалася ("ГР" № 39), сярод іншых захапленняў сяброў суполкі — даследаванні, якія тычацца гісторыі Беларусі, удзел у падрыхтоўцы і выпуску літаратурных альманахаў, правядзенні Дзён славянскай пісьменства.

А біяграфія і справы Уладзіміра Дзяржыцкага, удзельніка Першага з'езда беларусаў свету, могуць скласці сюжэт займальнай кнігі. Аўтарытэт лідэра пакуль што ніхто з супольнікаў у яго — удзельніка Першага з'езда беларусаў свету — аспрэчыць не можа. Уладзімір Флягонтавіч і цяпер цікавіцца дзейнасцю "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", збіраецца на чарговы з'езд. Пунктам адліку беларускай дзяржаўнасці лічыць Вялікае княства Літоўскае, выказаў пажаданне газеце, каб падавала гісторыю, зыходзячы з гэтага.

Адносна вартасці сённяшняй дзяржаўнасці Беларусі ў кішынёўскіх беларусаў меркаванне адназначнае. Адсюль, з Малдовы, Беларусь успрымаецца як моцная квітнеючая краіна, у якой ёсць дынаміка развіцця, захоўваюцца сацыяльныя гарантыі. Таму некаторыя імкнуцца, калі не самі вярнуцца, дык дзяцей накіраваць у Беларусь хаця б на летні азнаямляльна-аздараўленчы адпачынак на возеры Нарач.

У Беларускай суполцы беражліва захоўваецца дзённік, дзе з самага пачатку, з 1993 года, пазначаны практычна ўсе справы. Здзівіла і кранула тое, як свядома вядзецца падрабязны летапіс беларуска-га жыцця. Што ў ім больш важна, што менш, не варта дзяліць. Цікава было даведацца, з якой нагоды праводзіліся святы, хто з дзяцей і дарослых вызначыўся тут, як адзначалі 100-гадовы юбілей суайчынніцы, як дапамагалі тым, хто трапіў у бяду...

Увогуле Каардынацыйная рада ставіць на мэце стварыць пэўны мікраклімат беларускага асяродка, падтрымлівае кантакты ў Кішынёве з беларускім пасольствам, а ў Мінску найперш з Міністэрствам адукацыі.

З удзячнасцю гавораць члены суполкі пра ўвагу да іх беларускага пасла Васіля Саковіча, сцвярджаючы, што з яго з'яўленнем многае змянілася ў лепшы бок.

Адна з такіх змен — аднаўленне дзейнасці грамадскага таварыства дружбы "Малдова — Беларусь". Сёння яго ўзначальвае заслужаная артыстка Малдовы, спявачка Маргарэта Іванцух. У актыў уваходзяць знакамітыя ўрачы, прадпрымальнікі, дзеячы культуры... У іх ліку славуты спявак Міхаіл Мунцяну, дырэктар кандытарскай фабрыкі "Букурыя" Васіль Тарлеў... Таварыства абрала тактыку актыўных кантактаў і дэлегавала ў верасні ў Заслаўе на Дзень беларускага пісьменства сваіх прадстаўнікоў. Разам са старшынёй тады Беларусь наведалі артыстка Кішынёўскага рускага драматычнага тэатра імя Чэхава Марына Падалян і журналістка Тамара Сапега. Аднак і на гэтым вялікім свяце, якое вельмі ўразіла гасцей, яны не засталіся незаўважанымі, а прыняслі ўдзел у гала-канцэрце і вельмі спадабаліся гледачам.

Сярод сяброў таварыства прыкметная асоба журналісткі Тамары Сапегі. Лінія радаводу яе маці вядзе пад Магілёў, але беларускае паходжанне ў Тамары настальгіі не выклікала. Тамара, надзвычай актыўная натура, з маленства сцвярджала сябе ў любым калектыве. Цяпер яна заслужаны дзеяч культуры, аўтарытэтны тэлежурналіст, вядзе інфармацыйна-аналітычную эканамічную праграму. З меркаваннем Тамары Сапегі лічацца, у яе

**Праця г. Пачатак у №№ 39, 40.**



ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

# КУДЫ ВЯДЗЕ ДАРОГА З ТОГА?

*Сустрэцца з Эметэпам мне дапамагла Усціна Купрэйчык, юрыст Цэнтра па кансультаванню бежанцаў. Ён прыехаў да нас з далёкай афрыканскай краіны Тога. Што прымусіла яго пакінуць радзіму і бегчы за тысячы кіламетраў? Як яго сустрэла наша краіна? З якімі праблемамі ён сутыкнуўся на Беларусі?*

*Маленькі пакой. Стол, крэслы, камп'ютэр. У пакоі трое: Усціна, Эметэп і я. Эметэп — невысокі, хударлявы, чарнаскуры чалавек спачатку крыху нерваваўся, на пытанні адказваў стрымана і коратка.*

**— Эметэп, калі і як вы трапілі ў нашу краіну?**

— Я прыехаў да вас у пачатку гэтага года, зімою. Не ведаў, што траплю ў Беларусь. На радзіме мяне пасадзілі ў турму за тое, што я быў у апазіцыі да прэзідэнта. Мне ўдалося ўцячы адтуль і трапіць на нейкі карабель. Я не ведаў, куды ён ідзе, дарэчы, мне было ўсё роўна. Карабель прыплыў у Калінінград, дзе мяне сустрэў чалавек, які нелегальна перавёз праз мяжу і даставіў на Беларусь.

**— Якая ў вас мэта, пункт вашага канчатковага прызначэння?**

— Калі мне дадуць статус бежанца, то я з задавальненнем застануся ў вашай краіне. Тут мяне ніхто не праследуе.

**— З якімі праблемамі вы сутыкнуліся за час нелегальнага пражывання на Беларусі?**

— Спачатку не было дзе жыць, наняў пакой, але назаўтра гаспадар выгнаў мяне, таму што я нелегал, і ён не захацеў мець праз мяне праблемы. Вечарам нейкія людзі збілі і забралі ўсе грошы. Потым я знайшоў жыллё, але ўзнікла праблема з рэгістрацыяй. Мяне часта затрымлівала беларуская міліцыя, і я вымушаны быў плаціць штраф у памеры 6 долараў ЗША. У апошні раз у мяне забралі ўсе дакументы і аднеслі ў РАУС. Зараз я і без дакументаў.

**— Эметэп, а дзе вы бераце грошы на жыццё і штрафы?**

— Грошы дае арганізацыя Чырвоны Крыж. Я ж нідзе не працую, бо нікуды не бяруць без статуса бежанца.

**— Хто дапамагае вам вырашаць юрыдычныя праблемы?**

— УВКБ ААН па справах бежанцаў і Цэнтр па кансультаванню бежанцаў. Больш я нікому не патрэбны.

**— Эметэп, раскажыце пра сваю сям'ю.**

— Бацька мой — шафёр, мама — прадавец на рынку. У Тога ў мяне засталася жонка і трое дзяцей.

**— Вы хацелі б забраць іх на Беларусь?**

— Лічу, гэта справа выпадку. Можа я вярнуся ў Тога, можа яны прыедуць на Беларусь...

**— А ці ведаюць яны, дзе вы зараз знаходзіцеся?**

— Так, ведаюць. Прыехаўшы на Беларусь, адразу напісаў бацькам пісьмо. Яны патэлефанавалі, як толькі атрымалі яго. Сказалі, што ўсе мяне любяць і чакаюць, але зараз вяртацца мне небяспечна. Тут жа мяне не праследуюць, не высылаюць з краіны. Адно клапоціць: ці ўдасца атрымаць статус бежанца.

**P. S.** *Нядаўна разглядалася хадайніцтва аб наданні Эметэпу статуса бежанца. Яго просьбу адхілілі. Адвакаты будуць падаваць апеляцыю, але, як правіла, гэта не дае вынікаў...*

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

## ПЕРАСЯЛЕНЦЫ З УКРАІНЫ

**● Раман КАБЯК.**

Статак з 142 першацёлак ва ўрочышчы Зарыўе калгаса імя Карла Маркса Драгічынскага раёна даглядаюць муж і жонка Сцяпан і Вера Герасімікі. Сцяпан — пастух, Вера — даярка. Яны нядаўна перасяліліся з Любішчацкага раёна Валынскай вобласці Украіны, дзе, па іх словах, жыць цяжэй, чым у нашай рэспубліцы. Яны добрыя спецыялісты, гэта ацанілі ў гаспадарцы і далі ім кватэру, дзе зараз і пражывае маладая сям'я са сваімі чатырохгадовымі блізнятамі.



БелТА.

бяруць інтэрв'ю газетчыкі, пра яе робяць тэленарысы.

А сама Тамара адкрыла для сябе Беларусь не так даўно. Напрыканцы мінулага года яна прыехала ў Мінск у творчую камандзіроўку. Яе вынікам сталі 10 тэлерэпартажаў, якія прайшлі па Нацыянальным малдаўскім тэлебачанні. З таго часу Беларусь стала для журналісткі крыніцай многіх тэм — з'явілася каля сарака творчых выступленняў. Адно з апошніх — рэпартаж са святкавання Дня пісьменства ў Заслаўі. Як і ўсе іншыя, гэты матэрыял, акрамя пазнавальнай, нясе і канкрэтную інфармацыю. Так, міністр культуры Малдовы Генадзь Чубану звярнуў увагу на тое, што ў Беларусі свята пісьменства кожны год перамяшчаецца з аднаго гістарычнага цэнтра ў іншы, ствараючы такім чынам своеасаблівы ланцужок гістарычнай памяці.

А яшчэ ў Тамары Сапегі шмат сяброў, чаму спрыяюць яе чалавечая і прафесійная глыбіня. Тамара была маім гідам, а ўбачыць Кішынёў і Малдову яе вачыма — можна лічыць шанцаваннем. У яе расказах і дакладная інфармацыя, і асабістыя ўражанні. Менавіта Тамара прывезла і пазнаёміла з "Надзеяй", у якой таксама ёсць свая гісторыя.

Калі ўбачыла "Надзею" — падалося, што трапіла ў райскі куток, які патануў у ружах. "Надзея" — гэта кардыялагічны санаторый, Цэнтр рэабілітацыі для пенсіянераў і інвалідаў, які размясціўся на ўзвышшы над Днястром, нібы на астраўку ў паветры. У час ваеннага прыднястроўскага канфлікту менавіта гэтае месца адзін з бакоў аблюбаваў для размяшчэння мінамётаў. Пагроза знішчэння санаторыя была абсалютна рэальная. Але нават у такой крытычнай сітуацыі кіраўніцтва і медперсанал не пакінулі яго. Смеласцю і хітрасцю адвялі бяду. Кіраўнікамі і натхняльнікамі ва ўсіх справах для супрацоўнікаў "Надзеі" з'яўляюцца Віктар Заноагэ і Любоў Пятрова (дарэчы, таксама ўваходзяць у таварыства "Малдова — Беларусь"). Гэтак жа самааддана выцягваюць яны санаторый і з прорвы эканамічных праблем. Сёння "Надзея" — дагледжанае сучаснае прадпрыемства — сапраўдны аазіс у навакольным запусценні, дзе не проста праводзяць аздараўленне, а вяртаюць да актыўнага жыцця аднačасова 260 чалавек. Яшчэ гэты санаторый — настальгічны напамін пра савецкія часы: льготныя пуцёўкі, наладжанае сацыяльнае забеспячэнне.

І тут давялося напаткаць беларуску. Алена Мамаеўская родам з Пастаў. Некалі выйшла замуж, пераехала да мужа. Зараз загадвае санаторскім клубам. І як лічаць адпачывальнікі, наладжванне забаўляльнай часткі адпачынку — справа не другарадная. Алена працай сваёй і калектывам даражыць, таму, відаць, і непаразуменняў не ўзнікае.

Розныя людзі, з рознымі жыццёвымі лёсамі сустрэліся мне ў час падарожжа па Малдове, але ва ўсіх іх прываблівае тое, што нават у такой складанай сітуацыі, у якой знаходзіцца краіна сёння, яны ўмеюць накіроўваць свае думкі і намаганні да выратавальнага берага жыцця.

У апошні час у Малдове з'явілася больш рэальнай інфармацыі як аб нашай краіне, так і аб жыцці беларускай суполкі. Новым штуршком стала рэалізацыя ідэі Беларускага гандлёвага дома, тут ён мае назву "МалдБелінтэграцыя". А пачалася яго дзейнасць з адкрыцця выставы "Беларусь прадстаўляе". Ідзе падрыхтоўка да Дзён беларускага кіно. У планах — падпісанне дамовы паміж нацыянальнымі радыёкампаніямі аб абмене пазнавальнымі праграмамі...

* * *

Такія ўражанні і меркаванні пакінулі сустрэчы ў Кішынёве. Наперадзе было падарожжа ў Прыднястроўе. Пра гэта ў наступнай публікацыі.

**Наталля САЛУК.**

*Мінск — Кішынёў — Тыраспаль — Бендэры — Мінск.*

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

Местные исполнительные и распорядительные органы:

определяют места для временного поселения иностранцев, ходатайства которых о признании их беженцами зарегистрированы территориальными органами по миграции и которые не имеют возможности самостоятельно поселиться;

оказывают помощь в интеграции иностранцев, признанных беженцами, с учетом наличия свободных рабочих мест и вакансий на рынке труда;

предоставляют места для временного проживания иностранцев, признанных беженцами, не имеющих возможности самостоятельно поселиться.

Органы Государственной службы занятости Республики Беларусь организуют профессиональное обучение и трудоустройство иностранцев, признанных беженцами, по месту регистрации в территориальном органе по миграции и в органе внутренних дел.

**Статья 7. Порядок обращения с ходатайством о признании иностранца беженцем**

Иностранец, заявивший о намерении быть признанным беженцем и достигший возраста восемнадцати лет, обязан лично или через уполномоченного на то представителя обратиться с ходатайством в письменной форме:

в подразделение пограничных войск, или орган внутренних дел, или территориальный орган по миграции при вынужденном незаконном пересечении иностранцем Государственной границы Республики Беларусь в пункте пропуска либо вне пункта пропуска через Государственную границу Республики Беларусь в течение суток со дня пересечения иностранцем Государственной границы Республики Беларусь. При наличии обстоятельств, не зависящих от данного иностранца и препятствующих его своевременному обращению с ходатайством о признании его беженцем, срок обращения может превышать одни сутки, но не более чем на период существования возникших обстоятельств;

в территориальный орган по миграции по месту своего пребывания на законном основании на территории Республики Беларусь.

Если иностранец по состоянию здоровья не может лично заявить о желании быть признанным беженцем, это может сделать его уполномоченный представитель, представив при этом медицинский документ о состоянии здоровья представляемого .

Иностранец, вынужденный незаконно пересечь Государственную границу Республики Беларусь и заявивший о намерении быть признанным беженцем в Республике Беларусь, задерживается без применения к нему санкций, установленных законодательством Республики Беларусь за незаконный въезд в Республику Беларусь или незаконное пребывание в Республике Беларусь, подразделениями пограничных войск или органами внутренних дел.

Подразделения пограничных войск или органы внутренних дел обязаны в течение трех суток уведомить о желании иностранца быть признанным беженцем ближайший территориальный орган по миграции для рассмотрения вопроса о регистрации ходатайства.

Сведения о прибывших вместе с иностранцем членах его семьи, не достигших возраста восемнадцати лет, заносятся в ходатайство одного из родителей, а при отсутствии родителей — в ходатайство их законного представителя либо в ходатайство одного из членов их семьи, достигшего возраста восемнадцати лет и добровольно взявшего на себя ответственность за поведение, содержание и воспитание членов семьи, не достигших возраста восемнадцати лет.

В случае прибытия на территорию Республики Беларусь иностранцев, желающих быть признанными беженцами, не достигших возраста восемнадцати лет, без сопровождения законных представителей территориальным органом по миграции по возможности проводится их опрос, заполняется опросный лист. При наличии обстоятельств, предусмотренных абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, принимаются меры по передаче этих иностранцев органам опеки и попечительства Республики Беларусь до принятия решения об определении их правового положения в соответствии с настоящим Законом и иным законодательством Республики Беларусь.

Правовое положение иностранцев, признанных недееспособными и желающих быть признанными беженцами, определяется в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Рассмотрение ходатайств иностранцев, являющихся членами одной семьи, осуществляется в отношении каждого члена семьи, достигшего возраста восемнадцати лет, с учетом положений абзаца второго статьи 2 настоящего Закона.

В случае отсутствия обстоятельств, предусмотренных абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, в отношении одного из членов семьи, достигшего возраста восемнадцати лет, в целях обеспечения воссоединения семьи данный член семьи с его согласия также признается беженцем.

Предварительное рассмотрение ходатайства иностранца о признании его беженцем проводится территориальным органом по миграции по месту пребывания иностранца.

Решение о регистрации ходатайства иностранца о признании его беженцем принимается территориальным органом по миграции в течение трех рабочих дней с момента подачи ходатайства по итогам анкетирования иностранца, оформления опросного листа на основе проведения индивидуальных собеседований, а также по результатам проверки достоверности полученных сведений о данном иностранце и прибывших с ним членах его семьи.

Иностранцу, ходатайство которого о признании его беженцем зарегистрировано, выдается временное свидетельство о регистрации ходатайства (далее — свидетельство), которое является документом, подтверждающим личность иностранца, ходатайствующего о признании беженцем.

Сведения о членах семьи иностранца, не достигших возраста восемнадцати лет, заносятся в свидетельство одного из его родителей, а при отсутствии родителей — в свидетельство его законного представителя либо в свидетельство одного из членов его семьи, достигшего возраста восемнадцати лет и добровольно взявшего на себя ответственность за поведение, воспитание и содержание членов семьи, не достигших возраста восемнадцати лет.

Працяг. Пачатак у №№ 40, 41.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖПРЭМІІ БЕЛАРУСІ

# МУЗЫКА СУЧАСНАЯ І ХВАЛЮЮЧАЯ

**Алег ХАДОСКА — кампазітар. Нарадзіўся 21 сакавіка 1964 года ў Алма-Аце. Закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класу кампазіцыі прафесара А. Багатырова (1987) і пад яго ж кіраўніцтвам — асістэнтуру-стажыроўку (1989). Працуе ў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэле імя Р. Шырмы. Член Саюза кампазітараў Беларусі (1988). Аўтар кантат "Песні Белай Русі" (словы народныя, 1987), сімфанічнай паэмы "Сымон-музыка" (1986). З сімфоній, вакальнай музыкі — цыкл "Беларускі альбом" (словы народныя, 1984), "Літургія Іаана Златавуста" для хору а капэла (1993), музыкі да кінафільмаў і інш. Лаўрэат усесаюзных конкурсаў студэнтаў-кампазітараў (1985, 1987).**



У беларускім музычным мастацтве ёсць творцы, чыя дзейнасць уяўляе сабою імкненне да адраджэння духоўнасці, стварэння музычных палотнаў, у аснову якіх пакладзены старажытныя кананічныя тэксты з уласцівай ім філасофскай глыбінёй і пранікнёнасцю.

Сярод твораў беларускай музыкі канца XX стагоддзя, звязаных з духоўнай тэматыкай, вылучаецца Першая сімфонія "Пакаянная" маладога кампазітара Алега Хадоскі. У чым яе адметнасць?

Задума стварыць арыгінальны сімфанічны твор з'явілася ў той час, калі была знята забарона на духоўную музыку. Ахоплены ідэяй стварэння адначасткавай сімфоніі для хору, аркестра і магнітафоннай стужкі, кампазітар удала сумясціў традыцыйныя кананічныя гімны з сучаснымі прыёмамі музычных сродкаў.

Спачатку былі напісаны хоры "Алілуя", "Святы Божа", "Прыйдзем паклонімся", якія ў сімфоніі гучаць як узнёслыя духоўныя гімны.

Варта адзначыць, што Алег Хадоска праявіў сябе не толькі як таленавіты меладыст, але і як высокапрафесійны майстар харавога пісьма. Партыя хору, бадай, асноўная ў сімфоніі і вельмі выразна перадае ідэю марнага свету. Шэсце на Галгофу — фінал твора. Яго заканчэнне адбываецца ў поўнай цемры. Усё гэта ўспрымаецца з пачуццём глыбокага ўнутранага ўздыму, дае магчымасць слухачам сканцэнтраваць свае думкі на ўразуменні Ісціны нашага быцця і адчуць хвіліны духоўнага адраджэння.

У кампазітара арыгінальная тэхніка музычнага пісьма са сваімі стылістычнымі асаблівасцямі, якія ён тонка і вельмі арганічна спалучае з духоўнымі тэкстамі. І менавіта гэта стала асноўнай адметнасцю Першай сімфоніі "Пакаянная" Алега Хадоскі, якая сёлета вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Упершыню гэты твор прагучаў у 1998 годзе падчас фестывалю "Мінская вясна". Запіс сімфоніі захоўваецца ў фондах Нацыянальнага радыё.

Праслухала сімфонію "Пакаянная", і мне падумалася, што гэты сучасны твор духоўнай музыкі і яго ідэі будуць хваляваць не адно пакаленне слухачоў.

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ,**
**культуролаг.**

ПАСЛЯСЛОЎЕ

**Днямі беларускую сталіцу наведаў прэзідэнт Сусветнага цыганскага саюза Эміль Шчука. Прадстаўнічая дэлегацыя з кіраўніцтвам Беларусі не сустракалася, маючы на мэце толькі азнаямленне з ладам жыцця беларускіх ромаў. Тым больш, што першы цыган свету прыехаў у Мінск на вяселле свайго брата, які жыве тут ужо сем гадоў.**

**Пасля Мінска Эміль Шчука наведаў Маскву, дзе ўзяў удзел у сустрэчы цыганоў Расіі.**

# Эміль ШЧУКА: «МЫ ХОЧАМ ЗМЯНІЦЬ ВОБРАЗ РОМАЎ У ВАЧАХ СВЕТУ»

Цыганскім прэзідэнтам Эміль Шчука быў абраны сёлета, на пятым Пражскім кангрэсе ромаў. На гэтым форуме, куды, дарэчы, з'ехалася 500 чалавек з 39 краін свету, прынялі новы цыганскі статут, выбралі парламент (па аднаму прадстаўніку ад кожнай дзяржавы), які будзе выконваць дзве функцыі: кантрольную і судовую. Апошняя, між іншым, з'яўляецца прамым адлюстраваннем традыцыйных цыганскіх судоў, што існавалі ў даўнейшыя часы і захаваліся па сённяшні дзень. У склад судовага савета ўвайшлі 7 чалавек — самыя паважаныя, сусветна вядомыя ромы.

Пяты кангрэс стаў своеасаблівым працягам папярэдніх. Скажам, на першым форуме зацвердзілі цыганскі гімн, на другім — сцяг, пра мову гаварылі на трэцім... Апошні ж абвясціў цыганоў народнасцю. Але, як заўважыў Эміль Шчука, цыганы не патрабуюць нейкай для сябе тэрыторыі, яны — народ без дзяржавы. Сёння асноўная для іх праблема — наладжванне жыцця ромаў у тых краінах, дзе яны пражываюць. Бо цыганоў, напрыклад, у Еўропе — ад 15 да 18 мільёнаў чалавек; ва Усходняй частцы кантынента — каля 8. Па словах цыганскага прэзідэнта, у такіх краінах, як Славакія (кожны дзесяты жыхар — рома), Румынія і Балгарыя (дзе па 2—3 мільёны цыганоў), "качуючы народ" можа і павінен адыгрываць адпаведную ролю ў сваім грамадстве. Між іншым, паводле некаторых прагнозаў, праз 20—30 год цыганоў у свеце будзе ўжо ў тры разы больш (у тым ліку і ў Еўропе). Калі ж не выпраўляць тое дрэннае становішча, у якім сёння апынуліся ромы — беднасць, неадукаванасць, сацыяльная неабароненасць, — у хуткім часе "цыганскае пытанне" можа стаць галаўным болем для многіх урадаў краін свету.

Сёння цыганы Усходняй Еўропы сутыкаюцца з праблемамі, якія часта набываюць водбліск фашысцкай накіраванасці. Нядаўна Эміль Шчука прымаў удзел у дэманстрацыі ў Славакіі, што была выклікана трагічнай смерцю жанчыны-цыганкі, маці 8-мі дзяцей. І гэта не адзіны выпадак. За апошнія дзесяць год адбылося шмат падобных трагічных здарэнняў (скажам, у Румыніі знішчаліся цэлыя паселішчы цыганоў). Аднак падобныя выпадкі Эміль Шчука (і многія іншыя ромы) лічыць праявай паводзін асобна ўзятых людзей, а не ўрадаў і народаў тых краін, дзе з цыганамі здарыліся трагедыі. Праўда, у шэрагу краін існуюць палітычныя партыі, якія, засядаючы ў сваіх парламентах, маюць сваёй філасофіяй чыстай вады фашысцкую ідэалогію.

Адным словам, цыганы застаюцца найбольш не абароненай катэгорыяй людзей, іх узровень жыцця вельмі нізкі: напрыклад, кватэры намнога горшыя, у параўнанні з сярэдняй жылплошчай іншых грамадзян данай краіны. Найбольш высокі сярод цыганоў і ўзровень бяспраўя...



*Эміль ШЧУКА ў цэнтры.*

Не з'яўляецца выключэннем сітуацыя з цыганамі і на Беларусі: тыя ж праблемы, што існуюць ва ўсіх ромаў свету, маюць месца і на беларускай зямлі. Праблемы эканамічныя, культурныя, палітычныя... Калі, скажам, у Славакіі існуе прафесійны цыганскі тэатр, а ў Празе ў ВНУ ёсць факультэт цыганскай мовы, у нас пра гэта нават гаворка не вядзецца. Больш таго, сітуацыя на Беларусі ўскладняецца тым, што краіна не з'яўляецца членам Еўрасаюза, таму айчынныя ромы не маюць магчымасцей атрымаць дапамогу ад сваіх замежных, больш багатых родзічаў (сёння да беларускіх цыганоў пакуль што дайшлі толькі кампенсацыі як ахвярам Халакоста). Магчыма, нейкую падтрымку нашы ромы знойдуць у высокіх кабінетах, але, як адзначыў Эміль Шчука, кантакты з беларускімі ўладамі сёння наладжваць рана: цыганам свету трэба яшчэ дэталёва высветліць, якія праблемы існуюць у іхніх беларускіх братоў і сясцёр. Калі ж беларускія ромалы звернуцца да прэзідэнта цыганоў па дапамогу, а вырашэнне іх праблем запатрабуе ўдзелу ўлады, Эміль Шчука сустрэнецца з кіруючымі органамі Беларусі...

Галоўнай жа мэтаю Сусветнага цыганскага саюза з'яўляецца змаганне за роўныя правы ромаў ва ўсім свеце. У прыватнасці, беларускія цыганы палічылі дыскрымінацыяй той факт, што нядаўна прэзідэнта "Беларускай асацыяцыі цыганоў "Рома" Уладзіміра Мацвеева не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Барысаўскай акругі.

Дарэчы, рома па душы і па пашпарту Уладзімір Мацвееў даў калісьці параду сваім дзецям, каб тыя сталі ў дакументах беларусамі: маўляў, тады ўладкавацца ў жыцці будзе лягчэй.

Напрыканцы сустрэчы Эміль Шчука яшчэ раз падкрэсліў: цыганы — народ свету, таму на нейкую дзяржаўную тэрытарыяльнасць не прэтэндуюць. Аднак ромы маюць поўнае права "людзьмі звацца". Яны хочуць і могуць жыць, як і ўсё іншае насельніцтва планеты: вучыцца, працаваць, прыносіць максімальную карысць грамадству, краіне, дзе жывуць.

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

ПАДАРОЖЖА Ў ПІНСК



*Больш за два с паловай стагоддзі стаіць над Пінай Францысканскі касцёл Успення.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ.*

НАПЯРЭДАДНІ

# ПЕРШЫ ПАЭТ XX СТАГОДДЗЯ

У ліпені 2001 года спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння Янкі Лучыны (Івана Люцыянавіча Неслухоўскага) — беларускага паэта-лірыка, інтэлектуала, маладзейшага сучасніка Ф. Багушэвіча, аднаго з тых, хто сваёй творчасцю падрыхтаваў адраджэнскі ўздым беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя і чый зборнік "Вязанка" (1903 год) быў першым зборнікам беларускай паэзіі XX стагоддзя.

У Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны сабраліся зацікаўленыя асобы. На сустрэчы былі выказаны меркаванні аб важнасці гэтага юбілею і наступныя прапановы: святкаванне трэба правесці на дзяржаўным узроўні, дакладна вызначыць месцы жыхарства і працы Я. Лучыны ў Мінску і ўстанавіць там мемарыяльную дошку, правесці агульнагарадскую вечарыну, прысвечаную творчасці паэта, выставы ў Нацыянальнай бібліятэцы, ННАЦ імя Ф. Скарыны, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, перавыдаць кнігу твораў паэта, выдаць кнігу даследаванняў па творчасці Я. Лучыны, прысвоіць адной з вуліц Мінска імя Я. Лучыны, абвясціць конкурс на стварэнне надмагільнага помніка паэту на Кальварыйскіх могілках, дзе ён пахаваны. Было таксама прапанавана выпусціць маркі, канверты, наборы паштовак, прысвечаныя юбілею, наладзіць вечарыны памяці паэта ў школах, правесці канферэнцыю, прысвечаную творчасці паэта, з удзелам гуманітарных інстытутаў, ННАЦ імя Ф. Скарыны і Саюза беларускіх пісьменнікаў, арганізаваць спецыяльныя заняткі ў школах, сустрэчы з настаўнікамі мінскіх школ, зняць відэафільм пра паэта. Былі выказаны і іншыя прапановы.

Удзельнікі сустрэчы вырашылі звярнуцца да прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына з прапановамі па святкаванню юбілею Янкі Лучыны.

**Генек ДАМБРОЎСКІ.**



НАСТРОЙ

**Паўлюк ПРАНУЗА**

### ПАЭТ

**Яму не трэба кабінета,**
**Каб сумаваць у цішыні.**
**Рабочы стол яго — планета,**
**Кіпучыя у бітвах дні.**

**Але ж... На аркушы паперы**
**Кладуцца шчырыя радкі,**
**Як аздабляе ўзлессе верас,**
**Пра веснавыя ручайкі.**

**Пра жаўрукоў над ціхім полем,**
**У белай квецені сады,**
**Пра абеліскі, як таполі,**
**Пра боль чарнобыльскай**
**бяды.**

*11.06.2000.*

### МАЕ ГАДЫ

**Ад нараджэння і да скону —**
**Жыцця вялікі перагон.**
**Гады — таварныя вагоны —**
**Лятуць,**
**грымяць па рэйках дзён.**

**Іх секлі кулі і асколкі,**
**Абпалены агнём вайны.**
**Іх не спыніў ні вецер золкі,**
**Ні выбухі, ні перуны.**

**Я задаволены. Я рады,**
**Што не прайшлі паражняком.**
**Пад сонцам, снегам, ліўнем,**
**градам**
**Мой неабжыты родны дом.**

*1988 год.*

### САМ ЗАВАЁЎВАЙ

**І тут няма чаму дзівіцца,**
**Што ў горы, бедах нашы дні,**
**Хацеў бы я перасяліцца**
**На землі шчасця, дабрыні.**

**Дзе іх знайсці?**
**Хто дасць параду?**
**А сэрца мне: "Перажывём!"**
**Сам заваёўвай шчасце,**
**радасць,**
**Будзь іх сапраўдным кавалём.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ




# «ГЛІНЯНЫ ЗВОН» КЛІЧА МАЙСТРОЎ

## ТРЭЦІ РАЗ ПРЫЙШЛО НА ЗЯМЛЮ МІНШЧЫНЫ СВЯТА СТАРАДАЎНЯГА НАРОДНАГА ПРОМЫСЛУ — ГАНЧАРСТВА

Пасля Любаншчыны і Івянца народных майстроў прымаў Лагойск. І гэта не выпадкова. Бо год ад года пашыраецца яго вядомасць як аднаго з цэнтраў ганчарства на Беларусі. Тут працуе і старэйшы народны майстар Сямён Саўрыцкі, які далучыў да творчасці сваіх дзяцей, зяця і нават сямігадовую ўнучку. Дарэчы, у лагойскім Доме рамёстваў керамікай займаецца звыш 50 дзяцей, сярод іх група выхаванцаў дзіцячага сада № 2. Дапамагае ім у гэтай справе Валянціна Бяляцкая. Сведчанне зацікаўленасці жыхароў Лагойска да развіцця ганчарства — і адкрыццё ў горадзе падчас свята ганчарнай майстэрні.

А гасцямі горада на Гайне сталі лепшыя майстры з Івянца і Барысава, Салігорска і Любані, Капыля і Стоўбцаў, з іншых гарадоў і вёсак Міншчыны. Кожны з іх прывёз на свята свае вырабы, якія можна было набыць у "Рамеснай слабадзе". Вялікую цікавасць выклікаў і творчы конкурс майстроў, які ацэньвала журы на чале са старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам. Конкурс выявіў лепшых у розных намінацыях. Лепшы ганчарны посуд зрабіў Анатоль Высоцкі з Івянца, а глiняную цацку — Дзяніс Гром з вёскі Крупіца. За лепшую пластыку журы адзначыла Мікалая Пратасеню — кіраўніка салігорскай студыі керамікі "Скарбонка". У лагайчаніна Сямёна Саўрыцкага не аказалася канкурэнтаў у спаборніцтве за лепшую хатнюю калекцыю. Адзначыла журы і самы цікавы сямейны калектыў у складзе Аляксандра Кірычыка і яго сына Юрыя з Салігорска. Удалым быў і творчы дэбют Аляксандра Карнава з Івянца.

Поспеху свята ў Лагойску спрыялі не толькі майстэрства ганчароў і цудоўнае сонечнае надвор'е, але і дасканалая яго арганізацыя Упраўленнем культуры Мінскага аблвыканкама, абласным цэнтрам народнай творчасці і Лагойскім райвыканкамам. А эстафета наступнага свята перададзена гораду Радашковічы, дзе праз два гады зноў збяруцца ганчары Міншчыны.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**







НА ЗДЫМКАХ: працуе Анатоль ВЫСОЦКІ (Івянец); у карчме гасцей частавалі медавухай; такога дзеда пушчавіка зрабіў падчас конкурсу Юрый ЧАРАПОВІЧ.

Фота аўтара.

НАТАТКІ Яўгена ЛЕЦКІ

# АСТРАЎКІ БЕЛАРУШЧЫНЫ НА УКРАІНЕ

Весткі ад свайго ўкраінскага пабраціма, слыннага ў суседнім краі навукоўца, прафесара Кіева-Магілянскай акадэміі Юрыя Мыцыка, я, прызнаюся, сёлетнім летам зачакаўся. Ды атрыманае лагодным восеньскім днём узрадавала ўдвайне: у канверце, апрача ліста, была яшчэ і беларускамоўная, выдадзеная на Украіне кніжка. Гэта, калі не памыляюся, першая ластаўка пасля зацяжнога перапынку. Як вядома, яшчэ "за царом", ці, дакладней, да рэвалюцыі, беларускія кнігі на Украіне, найперш у Львове, які тады належаў да Аўстра-Венгрыі, час ад часу выдаваліся.

Кніга дасюль невядомага мне Міколы Чабана "Заспявай мне на матчынай мове" захапіла адразу ж, і чытаў я яе з нязменным радасным трымценнем. Ды як жа было не ўсцешыцца і не ўзрадавацца ад адкрыцця, спазнання і далучэння да адмысловай і незамутнёнай беларускасці, якая так хораша ацалела на "выспачцы" ў цэнтры неабсяжнага ўкраінскага мора. Проста дзівам успрымаецца тое, як нашы суродзічы, якіх у 1793 годзе паводле няўмольных законаў Расійскай імперыі сілком з беларускага мястэчка Дуброўна Магілёўскай губерні закінулі ў сяло Сурска-Фабрычнае ля Днепрапятроўска, з пакалення ў пакаленне перадавалі нашчадкам самае запаветнае: мову, культуру, традыцыі і абрады роднага народа.

І вось цяпер, дзякуючы рупнасці Міколы Чабана, самабытная і адмысловая часцінка душы роднага яму па маці народа назаўжды ўратавана ад забыцця і, дзякуючы днепрапятроўскаму выдавецтву, зрабілася нашым супольным грамадскім набыткам.

Пра зробленае Міколам з вышыні свайго навуковага аўтарытэту хораша напісаў Юрый Мыцык. І каб справа ішла пра адну з чарговых, няхай сабе адметных і значных кніг, — для газеты такога годнага прадстаўлення было б цалкам дастаткова. Ды выпадак тут, асабліва ў кантэксце існавання і выжывання дыяспары, унікальны, бо наш суродзіч, усёй сваёй сутнасцю адмыслова беларускі чалавек, падае знак і покліч адначасова: *давайце, шаноўныя суродзічы, парупімся, збяром і гэтым самым зберажом ад забыцця тое, што, насуперак неспрыяльным жыццёвым стыхіям, ацалела ў беларускай душы, грэла і асвятляла яе ў далёкіх і блізкіх чужынах.*

Будучы гаючымі лекамі для саміх сябе, гэты скарб выконваў ролю адмысловай візітоўкі, па якой беларуса пазнавалі і вылучалі сярод іншых ды за што шанавалі прадстаўнікі іншых народаў. Але як жа мала са зберажонага па ўсім сусветным абшары запісана і выдадзена!

Найперш, бадай, ухвальным словам варта згадаць нядаўна выдадзены грунтоўны том "Песні Беласточчыны". Рэшта ж адносіцца да часоў мінулых. Запісы вуснай народнай творчасці беларусаў на чужыне час ад часу з'яўляліся ў перыёдыцы і кнігах, выдадзеных пасляваеннай эміграцыяй Нямеччыны, Амерыкі, Англіі і Аўстраліі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі ад этнічных беларусаў Смаленшчыны запісваў і публікаваў фальклор Уладзімір Дабравольскі, а ў міжваенны перыяд у Латгаліі (Латвія) тое ж зрабіў Сяргей Сахараў. Значна менш вядомая асоба і дзейнасць Антона Янкоўскага, які збіраў скарбы вуснай народнай творчасці ад беларусаў Віленшчыны, яны, аднак, так і не выдадзены. Між тым беларускі культурна-асветны рух на Віленшчыне досыць актыўна адраджаецца: тут існуюць дзесяткі суполак і таварыстваў, працуе беларуская гімназія і аддзяленне беларускай філалогіі пры Дзяржаўным педагагічным універсітэце, карацей, ёсць падрыхтаваныя людзі, якім па сіле дапоўніць сабранае А. Янкоўскім і выдаць, па прыкладу суседзяў "Песні Віленшчыны". А мо і больш шырока даць вусную народную творчасць з этнічных беларускіх абшараў гэтага рэгіёна.

Добрым прыкладам тут будзе Сібір, дзе не толькі некалькі гадоў запар арганізоўваліся фальклорныя экспедыцыі тамашніх студэнтаў пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Мельнікава, але рабіліся выезды і адсюль, з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Беларускай акадэміі навук. Пра выніку вандроўкі тады ў "Літаратуры і мастацтве" друкаваўся матэрыял вядомых беларускіх фалькларыстаў Уладзіміра Васілевіча і Ігара Карашчанкі. Над апрацоўкай матэрыялаў шчыравалі супрацоўніца ІМЭФ Марына Ліс і іншыя. Будзем спадзявацца, што падрыхтаваны том фальклору беларусаў Сібіры неўзабаве пабачыць свет. На жаль, наш суродзіч Міхаіл Мельнікаў нядаўна памёр, але распачатае ім у новасібірскім абшары працягвае Наталля Лявонава. Тут згадваецца таксама прозвішча іншай Лявонавай, Таццяны Рыгораўны з Омска, якую можна лічыць першапраходцай па збору сучаснай вуснай народнай творчасці беларусаў у Сібіры: яе запісы апублікаваны ў шматлікіх расійскіх рэгіянальных фальклорных зборніках. Ухвальнае слова заслугоўвае і дзейнасць Любові Свірыдавай на далёкім Усходзе, дзе беларусы, як і ў Сібіры, пражываюць кампактна і, такім чынам, здолелі захаваць сваю нацыянальную існасць. Што датычыць іншых асяродкаў беларушчыны, то добра было б, каб знайшліся энтузіясты-заўзятары, якія б пачалі хоць бы з малога — запісалі некалькі песень, казак, прымавак, замоў і даслалі гэта ў Беларусь, дзе, спадзяюся, здабытае было б апублікавана ў перыядычным друку. То парупімся, братове!



Сабранае Міколам Чабаном цікавае сваім арыгінальным зместам, бо агульнавядомых па ўсёй Беларусі песень тыпу "Ой хацела ж мяне маці..." мала. На маю думку, тут не толькі два стагоддзі назад завезеныя з Беларусі песні, але і створаныя на чужыне. Пацвярджэннем сказанаму — песні фабрычна-заводскай тэматыкі. Нельга не схіліць галавы перад людзьмі, якія не толькі здолелі захаваць сваю спрадвечную нацыянальную самаіснасць, але і маральна-духоўны стан, душэўную чысціню і вабнасць, якая арганічна выяўлялася не толькі ў вуснай народнай творчасці, але і ў побыце, тонка, нават далікатна і без усякай дэкларатыўнасці перададзеная Міколам Чабаном у ягоным дзённіку. Натаваўся ён у 1982 годзе, калі яшчэ вёска не захлыналася ў п'янстве і іншых пошасцях, жыла сваім натуральным, выверaным стагоддзямі жыццём. Духоўнасць і душэўнасць, мараль і этыка — вось наша найвялікшае нацыянальнае багацце, з якім не могуць зраўняцца ніякія прыродныя радовішчы.

Выдадзеная на Украіне кніга, няма сумнення, будзе саграваць душу кожнага беларуса, дзе б ён сёння ні жыў, але які захоўвае ў сабе памяць пра родны край і ягоных людзей, працавітых, добрасумленных, духоўна прасветленых.

Працяг тэмы ў наступным нумары.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

*ЗВЯРТАЮСЯ З ПРОСЬБАЙ: ДАПАМАЖЫЦЕ ЗНАЙСЦІ СВАЯКОЎ У КАНАДЗЕ.*

Сястра маёй бабулі **Паша** і яе муж **Фёдар** у 1924 годзе выехалі ў Канаду. Там у іх нарадзілася трое дзяцей: сын **Уладзімір**, дочкі **Ганна** і **Алена**. Бабуля Паша не валодала граматай, і рэдкія пісьмы на радзіму пісаў яе зямляк Якаў Кот. Калі ён памёр, сувязь амаль страцілася.

У 1982 годзе мы атрымалі пісьмо ад унучкі бабулі Пашы **Peggy Shaw**. Некалькі пісем мы напісалі, а потым нашы пісьмы сталі вяртацца назад.

Вось што мы ведаем пра сваіх родных. Сын бабулі Пашы **Уладзімір ПАНАСЮК** жыве ў горадзе Капусказінг, штат Антарыо. У гэтым жа горадзе і яе дачка **Ганна ВАЛАНЦІН**, у якой чацвёра дзяцей: **Барбара** — 1948 года нараджэння, **Кроля** — 1949-га, **Peggy** — 1950-га, **Роберт** — 1963-га. Пра дачку Алену мы ведаем, што яна замужам за **Тэранс ПОВЕЛ**. У яе трое дзяцей: дзве дачкі і сын. Нам пісала пісьмы дачка Ганны Валанцін (унучка бабулі Пашы) Peggy Shaw. Яна пражывала (ці пражывае) па адрасу:

**Peggy Shaw**
**46 Wellirgton St. N**
**Goderich, Ontario**
**N/1A 2W8**
**Canada**

Адшуквае сваякоў **ДУДКО Людміла Міхайлаўна** (дзявочае прозвішча **Руткоўская**), унучка **РУТКОЎСКАЙ Вольгі Цімафееўны** (сястры бабулі Пашы).

Мой адрас:
**225140,**
**Брэсцкая вобласць,**
**г. Пружаны,**
**вул. Свабоды, 89а, кв. 6.**
**Дудко Л. М.**
**Хатні тэлефон: 7-10-87.**

Просім родных адгукнуцца. Будзем чакаць пісем. Калі ёсць магчымасць, то тэлефануйце. Фотаздымак зроблены ў 1956 ці 1957 годзе. Можа ён дапаможа ў пошуку.



## У ГОНАР ВУЧОНАГА-ЗЕМЛЯКА

Мемарыяльная дошка ў гонар вучонага-земляка, прафесара астранаўтыкі Барыса Кіта ўстаноўлена на будынку сярэдняй школы № 1 у Навагрудку. Да вайны тут размяшчалася беларуская гімназія, дырэктарам якой з 1939 года ён працаваў. У пасляваенныя гады лёс закінуў Барыса Уладзіміравіча ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ён і стаў сусветна вядомым вучоным. Аднак ён ніколі не забываў Беларусь, некалькі разоў наведваў родную Навагрудчыну.

У мінулым годзе Барысу Кіту споўнілася 90 гадоў. Цяпер ён жыве ў Германіі. Некалькі гадоў таму вучоны падарыў землякам частку свайго архіва, які цяпер захоўваецца ў Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
БелТА.

УРАЖАННІ

# СУРОВАЯ ЛІРЫЧНАСЦЬ

## ПОГЛЯД АНГЛІЙСКАГА ДАСЛЕДЧЫКА НА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

**Пра кнігу вядомага лонданскага даследчыка беларускай літаратуры Арнольда Макміліна "Belarusian literature in 1950s and 1960s" чытачы газеты, магчыма, ведаюць з рэцэнзіі Адама Мальдзіса ("Кантакты і дыялогі", №№ 1, 2, 2000 г. і Алеся Пашкевіча ("Літаратура і мастацтва" за 19 мая 2000 г.) ды з раздзела "Суровая лірычнасць", надрукаванага на англійскай мове ў першым выпуску Annus Albaruthenics (Крынкі, Польшча, 2000 г., рэд. Сакрата Яновіча).**

Мяне, як выкладчыцу англійскай мовы і аматарку-перакладчыцу англамоўнай паэзіі, зацікавілі ў першую чаргу падрадковыя пераклады аўтара кнігі паэтычных твораў і пераклады ўрыўкаў з прозы і драматургіі, якія багата цытуюцца ў кнізе. Займаючыся падобнай справай са сваімі выхаванцамі і маючы некаторы вопыт у аналізе перакладаў з англійскай мовы на беларускую і наадварот, магу адзначыць, што падрадкоўнікі зроблены дасканала, з разуменнем беларускага менталітэту і беларускіх рэалій, з перадачай усіх стылістычных з'яў, характэрных для таго ці іншага аўтара. Больш таго, захоўваецца нават рытмічная структура радкоў (колькасць акцэнтных груп). Застаецца толькі надаць падрадкоўнікам належную рыфму і памер, унесці паэтычны дух — і гатовы англійскі вершаваны твор, пазычаны з беларускай мовы.

З асаблівай цеплынёй Арнольд Макмілін піша пра беларускіх паэтак Еўдакію Лось, Дануту Бічэль-Загнетаву і Веру Вярбу, якіх называе лірычнымі патрыёткамі. Ён падкрэслівае іх тонкі лірызм, рамантычныя пачуцці да роднага куточка і жаночую індывідуальнасць кожнай з іх. Цытую: "Гэтыя тры жанчыны былі выключнымі прадстаўніцамі моцнай нацыянальнай тэндэнцыі ў беларускай паэзіі шасцідзесятых гадоў, імпульсам для якой сталіся ўзмацненне свабоды слова і адначасныя наступствы русіфікацыі".

Згадвае Арнольд Макмілін і пра пераклады, зробленыя з англамоўнай паэзіі на беларускую мову (па некалькі слоў пра Уладзіміра Дубоўку, Аркадзя Куляшова і Янку Сіпакова). На жаль, няма ні слова пра паэтычныя перастварэнні англамоўнай паэзіі Язэпа Семяжона ці Юркі Гаўрука. Шкада, што даследчыкі абходзяць творчасць перакладчыкаў, а гэта ж таксама творчасць, мэта якой — парадніць народы і ўзбагаціць сваю культуру. Але ж пра ўсё адразу не напішаш. Слава Богу, што ёсць такі навуковец, які нясе думкі пра беларускія літаратурныя здабыткі ў краіны вялікага Шэкспіра, неўміручага Бёрнса, адважнага Хемінгуэя... Дарэчы, Арнольд Макмілін знаходзіць нешта агульнае ў творчасці, напрыклад, Вальтэра Скота і Уладзіміра Караткевіча, Джэка Лондана і Васіля Быкава.

Асаблівую цікавасць я мела да раздзелаў, прысвечаных Васілю Быкаву і Уладзіміру Караткевічу. Перш-наперш гэта любімыя пісьменнікі нашых студэнтаў, творчасць якіх нават абітурыенты заўзята апісваюць на англійскай мове па тэме: "Мае любімыя беларускія пісьменнікі". А па-другое, студэнты-дыпломнікі робяць параўнальны аналіз арыгіналаў і перакладаў. У кнізе Арнольда Макміліна раздзелы гучаць: "Васіль Быкаў: Боль праўды"; "Уладзімір Караткевіч: Рамантычнае пераўвасабленне гісторыі". Апісваючы ўсе жанры, у якіх пакінуў спадчыну Уладзімір Караткевіч, даследчык з захапленнем расказвае англійскаму чытачу пра папулярныя творы пісьменніка і арыгінальны караткевічаўскі рамантызм. Цытую словы пра "Дзікае паляванне караля Стаха": "Гэта — апавяданне пра варварскія жахі, дэтэктыўная таямніца, гісторыя кахання, партрэт старажытнай культуры ў яе гаротным занядбанні...". Даследчык бачыць папулярнасць Уладзіміра Караткевіча ў захапляючых сюжэтах, у жывой і багатай мове, у таленце спалучаць эфектны пафас са злой іроніяй.

Што да Васіля Быкава, то ў заключным абзацы Арнольд Макмілін піша: "Васіль Быкаў — не толькі аўтар найвыбітнейшых твораў беларускай літаратуры XX стагоддзя але і вялікі грамадзянін і патрыё сваёй даведзенай да скону краіны. Не дзіўна, што надзеі і трывогі многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі выяўляюцца Васілём Быкавым у яго вострых публіцыстычных і выдатных мастацкіх творах".

Прыемна, дарэчы, што ў прадмове Арнольд Макмілін выказвае падзяку прафесару Мінскага лінгвістычнага універсітэта Іне Пановай за дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі. Дай Бог англійскаму навукоўцу натхнення і здароўя, каб ён змог напісаць яшчэ пра здабыткі беларускай літаратуры апошніх трыццаці гадоў.

**Алена ТАБОЛІЧ,**
**навуковец.**
г. Мінск

СТАСУНКІ

# ЛІДСКІ ПРАЕКТ У ІЗРАІЛІ

● **Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

Першы раз я пачуў пра гэтую акцыю ад старшыні Лідскага гарвыканкама Уладзіміра Мальца. З далёкай краіны ён вярнуўся з мноствам прыемных уражанняў. А неўзабаве ў Ліду прыехала наведаць сяброў Тамара Барадач, былая настаўніца, якая шмат гадоў узначальвала тут рэгіянальнае мемарыяльна-культурнае таварыства яўрэяў. Выехаўшы ў Ізраіль, яна стала кіраўніком мемарыяльных і турыстычных праектаў, што служаць своеасаблівым і надзейным мостам для ўмацавання стасункаў паміж нашымі краінамі і народамі. Ад Тамары Майсееўны я падрабязней даведаўся пра Лідскія дні пад Іерусалімам і ў Натаніі, пра іншыя планы і справы нашых суайчыннікаў за мяжою.

Ідэя згаданага праекта належыць групе былых лідчан і перш-наперш старшыні іх аб'яднання Хаіму Басісту. Усе дэталі важнага мерапрыемства колькі разоў абмяркоўвалі і ўдакладнялі. І вось настаў памятны дзень, калі акцыя адбылася. Нашы землякі розных пакаленняў сабраліся на лапіку зямлі пад Іерусалімам, купленым лідскай абшчынай. Ва ўрачыста-жалобнай абстаноўцы тут адкрылі камень-помнік загінуўшым у другой сусветнай вайне лідскім яўрэям і героям-партызанам. На цырымоніі выступілі прадстаўнікі лідскага камітэта ў Ізраілі, мэр горада Ліда Уладзімір Малец, першы сакратар беларускай амбасады ў гэтай краіне Максім Рыжанкоў і іншыя. Пасля слоў малітвы здавалася, што ўсё наваколле слухала сумныя музычныя матывы ў выкананні лідскага ансамбля яўрэйскай музыкі "Шалом".

Варта заўважыць, што цырымонію пад Іерусалімам вёў пісьменнік Іцхак Ганоз, зразумела, таксама колішні лідчанін. А дапамагала яму член праўлення лідскай абшчыны Сара Эльрам. Хвалююча і ўзнёсла расказвалі яны аб высакароднай мэце праекта, трагедыі беларускага яўрэйства ў гады фашысцкай акупацыі, гераізме і аптымізме гэтага народа і дапамозе яму ў цяжкую часіну з боку беларусаў, палякаў і іншых прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва. Запомніўся акт уручэння колішнім лідчанам дакумента на права валодання невялічкім участкам зямлі, якая стала называцца лідскай. Другі ж экземпляр таго дыплома ўручаны выхадцам з Ліды і Лідскага раёна, якія прыехалі на ўрачыстасць са Злучаных Штатаў Амерыкі.

Гораду Ліда і лідчанам прысвячалася эмацыянальная сустрэча ў горадзе Натанія, на якой прысутнічаў пасол Беларусі ў Ізраілі Генадзь Лавіцкі. Зноў былі ўспаміны пра даваеннае жыццё, пра змрочныя гады фашысцкай нявол і актыўны ўдзел яўрэяў Лідчыны ў руху Супраціўлення, пра складаныя лёсы землякоў. Людзі радаваліся пачутым весткам пра знаёмых, сумавалі па тых, хто пакінуў гэты свет. І зноў агульны настрой падтрымліваў сваёй цудоўнай музыкай ансамбль "Шалом".

Разнастайнай і цікавай была праграма Дзён Ліды ў Ізраілі. Лідчане сустракаліся з мэрам Натаніі, пабывалі ў адным калектыўным сельгаспрадпрыемстве высокай эканамічнай эфектыўнасці, здзейснілі экскурсіі ў Іерусалім, на Міжземнае мора і адно з азёр...

Словам, лідскі праект у Ізраілі ўдаўся і сапраўды паслужыў умацаванню нябачных мастоў паміж маладой радзімай і гістарычнай Айчынай яўрэяў Ліды, недалёкіх ад яе мястэчак і вёсак. Таму не толькі былыя лідчане, а і выхадцы з колішняга Лідскага павета імкнуліся чым толькі можна дапамагчы арганізатарам незвычайнай сустрэчы. Рыхтаваць яе і правесці дапамаглі нашы суайчыннікі з Ізраіля і ЗША, Германіі і Англіі, нават з далёкай Аўстраліі. З усяго свету, як падсумавала Тамара Барадач. І, акрамя актывістаў лідскай абшчыны ў Ізраілі, назвала імёны Саламона Лапідуса, Ханы Монка, Якава Фрэнкеля, Абрашкі Лавіта, Хаіма Камянецкага і іншых людзей, што даўно жывуць у розных краінах, але добра памятаюць лідскую зямлю, зямлю сваіх продкаў і каранёў.

Міжнародны цэнтр культурных сувязей "Ізраіль — Беларусь" ажыццяўляе падрыхтаваны Т. Барадач больш маштабны праект. Вось некаторыя мерапрыемствы, што здзейснены ў рамках гэтага плана. Праведзены Дзень памяці іўеўскіх яўрэяў. Летась у мястэчку Беліца Лідскага раёна адкрыты помнік мясцовым яўрэям — ахвярам Халакоста. Нядаўна на помніку загінуўшым ад фашысцкіх нелюдзяў землякам з Жалудка і Орлі (Шчучынскі раён) устаноўлена мемарыяльная дошка. На іўрыце выдадзена кніга "Наша Беліца", а пра мінулагоднюю паездку былых лідчан па роднай ім і незабыўнай зямлі створаны дакументальны фільм. Прэм'ера яго адбылася ў кавярні "Цудоўны Ізраіль" Тэль-Авіва. Паглядзець цікавую стужку разам з дарослымі прыйшлі іх дзеці, унукі. Пасля прагляду фільма, па сведчанні Т. Барадач, толькі і чулася: "Паедзем у Ліду! Паедзем у Беларусь!"

Ужыццяўленні беларускага праекта зроблены толькі першы крок. Галоўная яго ідэя закладзена ў назве "Тут нашы карані". Праграма ўключае ў сябе даследаванні па гісторыі яўрэйства на Беларусі, па яго барацьбе з нямецкімі акупантамі, трагедыі Халакоста, прадугледжвае пашырэнне ў Ізраілі ведаў аб нашай краіне, умацаванне стасункаў паміж Ізраілем і Беларуссю ды іх народамі.

ПОЛЬШЧА

Традыцыйныя "Дзесятыя музычныя дыялогі над Бугам" адбыліся ў Польшчы. Сёлета гэтае свята спалучалася Агульнапольскімі прэзентацыямі культур нацыянальных меншасцей. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі кіраўніцтва гміны Мельнік Падляскага ваяводства, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, Таварыства сяброў зямлі Мяльніцкай.

"Дыялогі над Бугам" былі арганізаваны як дыялог розных культур і народаў, а таксама як дыялог нацыянальных меншасцей з польскай культурай. У мерапрыемстве прынялі ўдзел беларускія, рускія, літоўскія, грэчаскія, цыганскія, украінскія, польскія фальклорныя і эстрадныя калектывы. Беларусь прадстаўлялі салісты Святлана Суседчык і Якаў Навуменка, а таксама ансамблі з Пружан і Камянца. Беларусы Польшчы былі прадстаўлены фальклорнымі калектывамі Галоўнага праўлення БГКТ. Праграма дапаўнялася кірмашамі-паказамі вырабаў народных рамёстваў і выставай-продажам кніг Цэнтра славянскай прэсы і кнігавыдавецтва.

**Прэс-служба МЗС.**



ПАДАРОЖЖЫ



# ГЭТА «СОНЕЧНАЯ, КЛАСНАЯ БАЛГАРЫЯ»,

## альбо КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ВОПЫТ МГА «ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА» Ў АЗДАРАЎЛЕННІ ДЗЯЦЕЙ

Усялякіх фондаў і турыстычных фірмаў, якія сёння шчыруюць на дзялянцы гуманітарнай дапамогі і аздараўлення дзяцей, у нашай краіне апошнім часам развялося шмат. Зрэшты, гэта добра. Бо ўсякая манаполія, хай сабе нават і дзяржаўная, у любой справе пагражае пэўнымі матэрыяльнымі і дэмакратычнымі выдаткамі, не кажучы ўжо пра карупцыю. Але, з другога боку, калі гуманітарная дзейнасць ператвараецца адно ў спосаб здабывання грошай для нейкіх індывідуумаў, працей кажучы, калі нехта наживаецца на дзецях, тады бляknуць усе аргументы пра здаровую канкурэнцыю і неабходнасць садзейнічаць грамадскім ініцыятывам.

У Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" невялікі вопыт аздараўленчай працы. Падаецца, аднак, ён уяўляе цікавасць. Мы ніколі не забываліся: папершае, яны дзеці, па-другое, беларускія дзеці, па-трэцяе, яны сённяшнія дзеці, а заўтра грамадзяне незалежнай беларускай дзяржавы XXI стагоддзя.

Якія ж яны зараз? Моцныя, як тыя крамяныя баравічкі з хваёвага бору, як тыя велічныя буслы, што заўсёды вяртаюцца на сваю Белую Русь з далёкага выраю? Ці нібы састарэлыя трухлявыя грузды — маленькія "дзядкі" з тужлівымі вочкамі, саслабелыя ад усіх гэтых пачвараў тэхнатроннай чалавечай цывілізацыі: чарнобыльскай навалы, кіслотных дажджоў, бяздумнай хімізацыі, якім ніякія "грынпісы" рады даць не могуць?

Якія яны? Ці ведаюць сваю культуру, гісторыю, ганарацца сваёй бацькаўшчынай і сваёй малой радзімай — сталічнай вуліцай, мястэчкам, вёсачкай недзе ў Прыдзвінні або ў Падняпроі? Ці змогуць прадэкламаваць на памяць верш Багдановіча ці Караткевіча, праспяваць беларускую народную песню або ўзнёслы патрыятычны гімн?

Пытанні і пытанні. Але можна бясконца — і даволі прыгожа — ставіць іх і... нічога не рабіць. А можна знаходзіць адказы на іх у кожнай канкрэтнай справе. Менавіта так спрабуе працаваць "ЗБС "Бацькаўшчына".

Пачыналі мы з арганізацыі летнікаў на возеры Нарач. Потым з ласкі Дабрачыннага фонду Ірэны Каляды з Клііўленда (ЗША) арганізавалі аздараўленне дзяцей беларускай інтэлігенцыі ў Турцыі. А сёлета набыты вопыт і атрыманая афіцыйная ліцэнзія на гуманітарную дапамогу і аздараўленне дзяцей дазволілі ад спарадычных мерапрыемстваў стаць на трывалы прававы грунт і распачаць мэтанакіраваную дзейнасць у гэтай галіне. Такім чынам, словы нашага статута аб "клопаце пра духоўнае і фізічнае захаванне беларускай нацыі" не сталіся адно пустым гукам.

З вялікім энтузіязмам працавалі сябры Управы і актывісты ЗБС, складаючы праграмы, прыкідваючы кошт аздараўлення, шукаючы фундатараў. Асобая ўвага надавалася камплектаванню дзіцячых груп для аздараўлення за мяжою. Ведаючы, колькі прайдзісвецтва тут можа прыхавацца, вырашылі адразу: ніякай асабістай выгады, усё павінна быць празрыста, пад пільным грамадскім кантролем.

Пры фарміраванні груп зыходзілі найперш з стану здароўя дзетак, сацыяльнага становішча сям'і (перавага аддавалася няпоўным і малазабяспечаным), факта пражывання ў забруджаных радыяцыяй рэгіёнах. Звярнуліся мы і да ТБМ імя Ф. Скарыны з прапановаю адзначыць аздараўленчай паездкай дзяцей са школ — пераможцаў конкурсу ТБМ на лепшую беларускамоўную школу.

Такім чынам, трапілі да нас хлопчыкі і дзяўчынкі ад 7 да 16 гадоў з заходнепалескай Століншчыны, Германавіч Шаркоўшчынскага раёна, дзе знаходзіцца мастацка-этнаграфічны музей імя Язэпа Драздовіча, прынёманскай Стаўбцоўшчыны, а яшчэ з Мінска, Віцебска, Гомеля, Навагрудка, Ліды.

Кіраўнікоў груп і выхавальнікаў таксама падбіралі адмыслова: доктар, псіхолаг, фізрук, культарганізатар павінны былі мець педагагічны досвед і вопыт практычнай працы з дзецьмі, ведаць гісторыю і культуру роднай краіны, народныя абрады, песні, гульні. Мова зносін — безумоўна, беларуская.

Звярнуўшыся ў Дабрачынны фонд Ірэны Калады, як і ў мінулым годзе, не мелі адмовы. Выдзеленых фондам грошай якраз хапіла, каб адправіць 2 групы дзяцей па 35 чалавек у Балгарыю. Не мелі клопату і з даўнім партнёрам — турфірмай "Рыола-тур".

Шумлівая і няўрымслівая залатавалосая і блакітнавокая дзіцячая Беларусь сабралася на сядзібе ЗБС перад ад'ездам.

Нарэшце цягнік "Мінск — Варна". Імклівa праносяцца межы і краіны. Гучыць украінская, малдаўская, румынская, балгарская мовы мытнікаў. Беларускай мовы з вуснаў беларускіх мытнікаў, зразумела, не чуваць.

Канцавы пункт маршрута — курорт святых Канстанціна і Алены, каля 10 кіламетраў ад Варны. Гатэль "Карал" па-еўрапейску дагледжаны і ўтульны, размешчаны ў натуральным прыродным парку.

Дзень праз дзень нашыя падапечныя бранзавелі ад сонца, станавіліся больш жвавымі і рухавымі. Настольны і вялікі тэніс, спартыўныя пляцоўкі, басейн з мінеральнай вадой для іх паслуг бясплатна. Прыемна было чуць, да прыкладу, ад балгарына-трэнера: "Вашыя дзеці такія выхаваныя, прыстойныя".

Культурная праграма складалася з дзвюх частак: прадугледжаных зараней і закладзеных у кошт адпачынку турыстычнай фірмай (экскурсіі і г. д.) і арганізаваных самастойна кіраўнікамі групы.

Між іншым, дзякуючы сябру Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Галіне Сяргеевай, супрацоўніку Інстытута гісторыі НАН Беларусі, якая даследавала беларуска-балгарскія сувязі, і беларусы маглі расказаць цікавыя факты сваім балгарскім сябрам. Напрыклад, у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гадоў дапамагалі вызваляць Балгарыю беларуска-ўланскі Мінскі і Магілёўскі палкі. Войска пад камандаваннем беларуса Г. Гуркі пад Філіпопалам разбіла турэцкую армію Сулеймана-пашы, другі беларус К. Хруцкі за турэцкую кампанію атрымаў тры Георгіеўскія крыжы. Яшчэ адзін наш знакаміты зямляк (быў нават прэзідэнтам Гавайскай Рэспублікі) М. Судзілоўскі фундаваў грошы і зброю для балгарскіх паўстанцаў, кіраваў ваенным шпіталем. Выратаваў як хірург многія жыцці. На Вайсковых могілках у Мінску знаходзяцца магілы вайскоўцаў, што памерлі ад ран у тую вайну, і пабудаваны ў гонар перамогі храм-помнік — царква Аляксандра Неўскага.

"Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць". Сапраўды, шмат хто, толькі апынуўшыся за мяжою, пачынае ідэнтыфікаваць сябе як беларуса, як чалавека, адрознага ад іншых нацыянальнасцей.



Тут вельмі прыдалася гістарычная віктарына. Якія беларускія дзяржавы існавалі ў старажытнасці, хто такая Ефрасіння Полацкая, хто вынайшаў шматступенчатую ракету, хто стварыў літары нашай азбукі? Якія славутых людзей дала свету Беларусь, якія гістарычныя даты павінны памятаць і шанаваць беларусы? На гэтыя і яшчэ колькі пытанняў віктарыны не ўсякі дарослы змог бы даць вычарпальныя адказы. Але для дзесяцікласнікаў Ігара Землякова з Віцебска і Наталлі Філіпёнак з Германавіч складанасцей яны не ўявілі. За гэта і атрымалі перамоцы ў падарунак апошнюю кнігу М. Ермаловіча "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае" і іншыя беларускія бестселеры. Балгарскі гід Ніна Коева, якая прысутнічала на віктарыне, прыйшла ад яе ў захапленне і зазначыла, што ўвогуле гэта першая беларуская група, якая размаўляе на беларускай мове.

Конкурс малюнка прысвяцілі Балгарыі і Беларусі. Першае месца (пераможцы вызначаліся дэмакратычна з улікам меркаванняў усіх прысутных па складанай рэйтынгавай сістэме) заняла мінская дзевяцікласніца Надзея Яцыновіч. Дарэчы, яна ж стала Купалінкай на свяце Купалля, якое якраз прыпала на гэту вандроўку. Трэба сказаць, усім пашанцавала на культарганізатара. Зміцер Сасноўскі, навапалацкі бард і выканаўца старажытнай беларускай рыцарскай музыкі, выдатна ведаў усе тонкасці святкавання Купалля. Была і інтрыга з выкраданнем Купалінкі, і скокі праз сімвалічнае вогнішча на пляжы, і дубовыя вянкі хлапчукоў, і кветкавыя — дзяўчынак, і вялізны вянок з запаленымі свечкамі, спушчаны ў мора з пірса, і магічная — з глыбіні вякоў — купальская песня "То-то!", карагоды, гульні, купанне ў начным моры.

На дзень імяніннікa віншавалі тых, каму пашанцавала сустрэць сваё чарговае "годдзе" ў Балгарыі. Усе астатнія рыхтавалі святочны канцэрт для імяніннікаў. Асабліва запомнілася тэатральная сцэнка, разыграная дзяўчынкамі са Столінскага раёна Насцяй Пыталь і Вольгай Петрусевіч. Калі яны, загрымаваныя пад вясковых бабулек, пачалі гучна перабрэхвацца на роднай заходнепалешуцкай гаворцы, збеглася большасць пастаяльцаў і абслугі гатэля паглядзець на відовішча. Балгары, датчане, немцы ўбачылі маленькім выканаўцам сапраўдную авацыю.

У футбольнай гульні беларускія хлопцы разгромілі аднагодкаў з прыватнай элітнай піцерскай гімназіі з лікам 8:0. Наступнымі былі балгарскія хлапчукі з Габрава. Як звонка і голасна скандзіравалі дзяўчаткі-заўзятаркі: "Бе-ла-русь! Бе-ла-русь!", чутно было па ўсім узбярэжжы. Зразумела, нацыянальны флаг так і лунаў у паветры. Хвілін праз колькі не вытрымалі і габраўцы — на полі з'явіўся белазялёна-чырвоны балгарскі сцяг. Не дапамагло. Мы выйгралі 4:1.

Усё добрае калісьці заканчваецца. Скончылася і гэта вандроўка. Засталіся толькі ўспаміны і кароткія запісы ў развітальнай кнізе адрасоў: "Дзякуй, "Бацькаўшчына", за два тыдні лепшага ў маім жыцці адпачынку, які прайшоў у прыгожым горадзе Варна, на курорце Святых Канстанціна і Алены", "не забывайце сваіх маладзшых сяброў", "мы не развітаемся з вамі", "дзякуй за паездку ў сонечную, класную, прыгожую Балгарыю". Застаўся і арганізацыйны вопыт выхавальнікаў, апрабаваны "ў справе". Калі атрымаецца, у наступным годзе плануем вызначаць частку ўздельнікаў аналагічных вандровак, правёўшы конкурс "Што я ведаю пра Беларусь за межжа".

**Валерый ГЕРАСІМАЎ,**
**выконваючы абавязкі старшыні Управы "ЗБС "Бацькаўшчына".**

ЮБІЛЕІ

# З РЭЧЫЦКАГА ПАВЕТА ПРАЗ РАСІЮ, КІТАЙ, ЯПОНІЮ — У ГІСТОРЫЮ

Сёлета спаўняецца 185 год з дня нараджэння Іосіфа Гашкевіча, падарожніка, вучонага-мовазнаўца, першага консула Расіі ў Японіі. Ён нарадзіўся ў 1815 годзе ў вёсцы Перасвятое Рэчыцкага павета ў святарскай сям'і. Скончыўшы Мінскую духоўную семінарыю, у 1835 годзе атрымаў накіраванне ў Пецярбургскую духоўную акадэмію, якую скончыў у 1839 годзе. У час вучобы выказаў думку пра неабходнасць перакладу Старога Запавету на рускую мову, але гэтая прапанова не знайшла падтрымкі ў тагачаснага кіраўніцтва акадэміі.

Праз некаторы час студэнты Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі былі запрошаны для працы ў Рускай праваслаўнай місіі ў Пекіне для вывучэння Кітая. У час, калі місію ўзначальвалі спачатку архімандрыт Пётр (Каменскі), а затым архімандрыт Гурый (Карпаў), яна шмат зрабіла для навукі, падрыхтаваўшы выдатных сінолагаў (кітаязнаўцаў). Сярод навукоўцаў місіі вызначаўся Іосіф Гашкевіч, які правёў тут 10 гадоў і пaклаў пачатак астранамічным і метэаралагічным назіранням пры рускім падвор'і. У 1852-м атрымаў накіраванне перакладчыкам і сакратаром да віцэ-адмірала Пуцяціна, эскадра якога накіроўвалася ў Японію. Вывучыўшы японскую мову, разам з манахам Тацібана Каоса склаў і выдаў першы ў Расіі японa-рускі слоўнік (1857), адзначаны прэстыжнай Дзямідаўскай прэміяй і медалём Пецярбургскай АН.

У 1857 годзе атрымаў накіраванне на дыпламатычную работу рускім консулам у Японіі на востраве Хакайда. У 1867-м вярнуўся дамоў. Жыў у маёнтку Малі Віцебскай губерні (цяпер Астравецкі раён). Хварэў, але працягваў займацца ўсходняй філалогіяй. Багатыя калекцыі флоры і фауны, сабраныя ў час падарожжаў, перадаў Заалагічнаму музею Акадэміі навук у Пецярбургу. Памёр у 1875 годзе. Бюст нашага суайчынніка ўстаноўлены ў Астраўцы. У вёсцы Малі дзейнічае прысвечаны яму музей.

Сёлета шостага кастрычніка ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы Мінска адбылася паніхіда ў памяць вучонага і дыпламата.

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
**навуковы супрацоўнік Скарынаўскага цэнтра.**

МАСТАЦТВА БЕЗ МЕЖАЎ



У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася выстава работ народнага мастака Леаніда ШЧАМЯЛЁВА (на здымку). Ва ўрачыстым адкрыцці прыняў удзел міністр замежных спраў Урал ЛАТЫПАЎ.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

ГАСЦЁЎНЯ

**НАША ГАЗЕТА ПІСАЛА, ШТО Ў МІНСКУ ІСНУЕ КЛУБ АМАТАРАЎ ДАЎНЕЙШАЙ ТЭХНІКІ. МНОГІЯ МІНЧАНЕ ЦІКАВЯЦЦА СТАРЫМІ МАДЭЛЯМІ ВЯДОМЫХ АЎТАМАБІЛЬНЫХ ФІРМАЎ І МАРАЦЬ ІХ НАБЫЦЬ. СЁННЯ ПАЗНАЁМІМ ВАС З ГАСПАДАРОМ АДНАГО З НАЙСТАРЭЙШЫХ АЎТАМАБІЛЯЎ НА ТЭРЫТОРЫІ НАШАЙ КРАІНЫ, ВАДЗІЦЕЛЕМ З 43-гадовым СТАЖАМ — Уладзімірам ДРАЗДОМ.**



# 63-гадовы «ЭМІГРАНТ» З АМЕРЫКІ І ЯГО БЕЛАРУСКІ ПАРТНЁР

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вы — адзін з нешматлікіх у Беларусі ўладальнікаў даўнейшай іншамаркі. Вашаму Buick 63 гады. Раскажыце пра сябе і сваё захапленне.**

— Нарадзіўся я ў Мінску, на вуліцы Надзеждзінскай, адзін бок якой разам са мною працягвае жыць 76-ты год. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Адразу пасля вызвалення Мінска прызвалі ў армію. Спецыяльнасць механіка-вадзіцеля атрымаў на службе. Пасля звальнення ў запас працаваў на Мінскім аўтазаводзе вадзіцелем-выпрабавальнікам.

**— На фестывалі старасвецкай культуры ў Дудутках вы прымалі ўдзел у аўтапрабегу на сваім антыкварным аўто. Што можаце расказаць чытачам пра свайго "заакіянскага сябра"?**

— Думаецца, што сорак гадоў надзейнай службы дастатковы выпрабавальны тэрмін для такога азначэння, як сябар. Гэта амерыканскі пяцімесны Buick Fight Special, 1937 года выпуску, з 8-цыліндравым рухавіком, аб'ёмам 3,8 літра, магутнасцю 130 конскіх сіл пры 4000 абаротаў у хвіліну, вагою 1,7 тоны, Х-абразнай нясучай рамай.

**— Пакупка такой машыны неяк звязана з хрушчоўскай адлігаю?**

— Так, толькі ў 1957 годзе выйшаў дазвол на пакупку іншамарак. А купіў я Buick у аднаго масквіча ў лістападзе 57-га, ён жа набыў яго ў пачатку таго ж года ў амерыканскім пасольстве. Заплаціў я за машыну 18 тысяч рублёў. Для спраўкі: "Победа" каштавала 16 тысяч рублёў, але ў чарзе трэба было стаяць мінімум дзесяць гадоў.

**— Які прабег быў у машыны на момант пакупкі? І колькі вы ўжо за 43 гады наездзілі?**

— На адометры было тады 170 тысяч кіламетраў, а я "набегаў" яшчэ больш за 200 тысяч.

**— У той далёкі час з запчасткамі для прэстыжных іншамарак было няпроста, нават такі вядомы аўтааматар, як дарагі Леанід Ільіч Брэжнеў, асабіста займаўся гэтым. Як вы вырашалі даную праблему?**

— Прадбачыў вялікія цяжкасці з запчасткамі, таму ўжо праз пяць гадоў выпадкова набыў 6-цыліндравы рухавік ЗІМ-12, канешне ж, патрыманы. Гэтая замена дазволіла з большай упэўненасцю і з большымі магчымасцямі эксплуатаваць аўтамабіль, а яго "родны" рухавік захоўваецца ў мяне ў гаражы ў рабочым стане.

**— Моцны кузаў — адна з абавязковых умоў прэстыжнага аўтамабіля таго часу. Як удалося чатыры дзесяткі гадоў захоўваць яго амаль у ідэальным стане, у чым я пераканаўся пры аглядзе аўтамабіля?**

— Днішча апрацоўваў усяго двойчы: у 61-м годзе — масцікай, а ў 74-м — антыкорам. Трэба сказаць, што структура кузаўнога металу гэтай машыны высокавугляродзістая, і, у адрозненне ад кузаваў айчынных машын, не пакрытая фарбай участкі не паддаваліся карозіі на працягу паўгода, а бампер свердзел не браў зусім. Высокую механічную трываласць забяспечвае Х-абразная рама шасі.

**— Часцей пабуджальным матывам набыць аўто служаць чыста мужчынскія захапленні: паляванне, рыбалка, вандроўніцтва.**

— Менавіта. У 65-м годзе на машыне пабыў з сям'ёй у Ялце і Еўпаторыі, у 1972 годзе — у Карпатах, Кішынёве і Ізмаіле. На паляванне ездзіў на Палессе, у Лунінец (за 500 кіламетраў), па клубніцы і, наогул, з 60-га года штодзённа ездзіў на працу.

**— Акрамя рухавіка, якія яшчэ былі замены, дапрацоўкі, якія вузлы засталіся без змен?**

— Задні мост і дыскі — "родныя", абліцоўку, канешне ж, прыйшлося ўсю абнавіць. З ліку дапрацовак — ацяпляльнік і бакавыя люстэркі — да вайны бакавыя люстэркі не ставілі ні ў Еўропе, ні ў ЗША.

**— Можа быць, на памяці ёсць нейкія мерапрыемствы, у якіх вы і ваш Buick прымалі ўдзел?**

— Так, канешне. Прайшло 13 гадоў з дня першага аўтапрабегу самадзейных і антыкварных транспартных сродкаў, маршрут якога праходзіў праз усе абласныя цэнтры Беларусі. Хочацца верыць, што гэты прабег застаўся ў памяці многіх аўтааматараў. А ў 1996 годзе прымаў удзел у сустрэчы аўтаралі Люксембург — Прага — Варшава — Брэст — Мінск — Ноўгарад — Санкт-Пецярбург — Люксембург. У калоне, якая рухалася з хуткасцю больш за 100 кіламетраў, быў англійскі аўтамабіль 1928 года выпуску, яго ўладальніка зацікавіў мой Buick — нам было пра што пагаварыць.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, а якія ў вас адносіны з ДАІ?**

— Нашы адносіны заўсёды былі роўнымі, скажу больш — ідэальнымі. Тэхагляды праходжу рэгулярна, усе пасты — з першага разу. Мой 63-гадовы аўтамабіль ставяць у прыклад іншым вадзіцелям. Штрафаў і папярэджванняў у мяне ніколі не было — я ж сам выкладаў на курсах "ПДР, ваджэнне і ўстройства аўтамабіляў і матацыклаў".

**— Чым дарагі вам Buick — сваёй унікальнасцю або ўкладзенай працай?**

— Так адназначна сказаць нельга, канешне ж, і тым, і другім. А яшчэ добрымі ўспамінамі пра шматлікія здымкі ў кіно і тэлефільмах. Ды чаго хітраваць, — кармільцам таксама быў: яшчэ тры гады назад я на ім вяселлі вазіў.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, калі дазволіце, далікатнае пытанне. Вам удалося пазбегнуць каварнай, можна сказаць, прафесійнай хваробы вадзіцеляў — радыкуліту. Што робіце для падтрымання цудоўнай фізічнай формы ў вашы 76 гадоў?**

— Сакрэтаў няма. Рэгулярна наведваю лазню з венічкам, ніколі не курыў. Заўсёды займаўся тым, што падабалася, і заўсёды стараўся рабіць усё сам, пачынаючы з будаўніцтва дома, у якім жыву з сям'ёй. Магчыма, дапамагалі неяк у гэтым рыбалка, паляванне, імкненне да перамены месцаў. Любіў плаваць у адкрытых вадаёмах. Выпіваў у меру.

**— Вялікі дзякуй за гутарку. Усяго вам найлепшага!**

**Мікалай ЛЯБЕДЗІК.**
Фота аўтара.

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 41

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 3. Навела. 5. Азбука. 10. Стан. 11. Егер. 12. Сатыр. 13. Расол. 14. Аправа. 17. Абшлаг. 21. Атара. 22. Рапіра. 23. Планёр. 24. Засек. 25. Кардан. 28. Страфа. 30. Савет. 31. Тарка. 33. Сола. 34. Паля. 35. Блазан. 36. Махляр.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Аванс. 2. Вузел. 3. Натоўп. 4. Ліштва. 6. Зноска. 7. Алегра. 8. Марнатраўства. 9. Мерапрыемства. 14. Аброк. 15. Рупар. 16. Варта. 18. Балет. 19. Лінза. 20. Гурба. 26. Апломб. 27. Навала. 28. Страта. 29. Футляр. 30. Саман. 32. Апала.**

ДАЙДЖЭСТ

# МАЎГЛІ З ІВАЦЭВІЧАЎ

***ЯГО ШУКАЛІ БОЛЬШ ЗА ТРОЕ СУТАК — І ЎСЁ Ж ЗНАЙШЛІ ЖЫВЫМ***



Сёння Віця — самы вядомы чалавек на ўвесь Івацэвіцкі раён. Той самы хлопчык, якога трое сутак шукалі па лесе міліцыя, салдаты, жыхары навакольных вёсак, бацькі. Маючы адзін год і дзесяць месяцаў ад роду, столькі часу правесці ў халодным лесе, перажыць тры ночы з восеньскімі замаразкамі — такое дастойна Кнігі рэкордаў Гінеса. А Віцёк, здаецца, нават не прастудзіўся.

Лясы тут без перабольшвання страшныя: самыя што ні ёсць дрымучыя, месцамі забалочаныя. А для Віцінага бацькі Эдуарда Кузьмені навакольныя лясы — амаль дом родны: ён у іх леснікам. Той ранiцай Эдуард сабраўся па грыбы і вырашыў з сабою ўзяць малодшага — Віцьку. Жонка запратэставала, але была пастаўлена мужам на месца. Усё, што змагла зрабіць для Віці мама, — надзець на яго цёплую шапачку, двое штаноў, боцікі, куртачку з капюшонам — адкрытым заставаўся толькі твар. Мабыць яна, сама таго не ведаючы, выратавала жыццё сыну.

Эдуарда таксама можна зразумець: што з малым у такім знаёмым лесе здарыцца? Затое мужычком будзе расці, лес з маленства добра ведаць, дынастыю, магчыма, працягне. Да дванаццаці раніцы кошык быў амаль поўны, але хто не ведае святой веры грыбніка, што самы прыгожы грыб яго яшчэ чакае. І Эдуард прыняў рашэнне праверыць яшчэ адну палянку, пакінуўшы малога каля матацыкла і строга загадаўшы нікуды не адыходзіць.

Вярнуўшыся, ён не знайшоў свайго Віцькі. Закружыў, забегаў, пачаў крычаць — ніхто не адгукаўся. Пабегаўшы па лесе хвілін дваццаць, у паніцы вярнуўся дадому. Потым шукалі з жонкаю ўдваіх, тэлефанавалі ў міліцыю, узялі на дапамогу суседзяў і леснікоў.

З кожнай гадзінай надзеі заставалася ўсё менш: усіх трывожылі начныя замаразкі. Падбадзёрваючы сябе, згадвалі, што Віця здароўем не быў абдзелены, ён і на свет з'явіўся багатыром: вагою 4 кілаграмы 300 грамаў. Пачаў хадзіць, калі яму яшчэ і года не было.

Да трэцяга дня для прачэсвання лесу былі залучаны 55 ваеннаслужачых, тры пошукавыя сабакі, жыхары трох навакольных вёсак.

Відаць, пры такім маштабе пошукаў, пры такім жаданні не магло не пашчасціць. Пашанцавала радавому тэрміновай службы Паўлу Кусцінскаму, для якога гэты эпізод стане самым запамінальным у яго службе.

"Я ўбачыў яго метры за чатыры ад сябе, — згадвае Павел, — і адразу зразумеў, што гэта той хлопчык, якога мы шукаем. Ён сядзеў на зямлі сярод хмызняку. Я закрычаў: "Знайшоў!"

Калі б разумеў маленькі Віця, што адбываецца, ён бы зараз купаўся ў славе. У бальніцу адзін за адным наведваюцца журналісты, наводзяць аб'ектывы, шмат пытаюцца — усе круцяцца вакол яго.

Урач-рэаніматар Мікалай Свірыд прызнаўся, што больш лёгкага пацыента ў яго аддзяленні яшчэ не было. Суб'ектыўных і аб'ектыўных паталогій у хлопчыка не выяўлена, паступіў у бальніцу ў поўнай свядомасці. Лёгкае пераахаладжэнне, невялікія ацёкі ног. Моцна хацеў есці, з'еў усе цукеркі і бутэрброды медперсанала, запіваючы гарачым чаем. Тэмпература нармальная, толькі адзін раз падымалася да 37,5. Звычайна ў дзяцей такога ўзросту кампенсацыйныя магчымасці ніжэйшыя, чым у дарослых, арганізм да канца не адаптаваны. Незразумела, як ён выжыў. Урач здзіўляецца.

Шкада, што Віця яшчэ зусім малы і не можа расказаць пра сваю вандроўку. А можа, яно і на шчасце: малы сам нічога не зразумеў. Але ўзрушэнне давялося перажыць моцнае. Хлопчык зараз не вельмі хоча размаўляць, шмат спіць і п'е. Але ахвотна ідзе на рукі да кожнага і моцна абхватвае за шыю.

("Народная газета").

ПЛЫВУЧЫ МОСТ ПРАЗ ГАРЫНЬ



● **Раман КАБЯК,** БелТА.

Адна з самых свавольных рэк на Палессі — Гарынь. Да гэтага часу сувязь паміж двума берагамі здзяйснялася шляхам выкарыстання лодак і парома. У гэтым годзе выхад знайшлі: з баржаў на Пінскім суднарамонтным заводзе вырабілі два плывучыя масты, якія пры веснавым крыгаходзе могуць быць прышвартаваны да берага.

Мост каля вёскі Манькавічы (на здымку) набылі ў складчыну — частку грошай сабралі мясцовыя жыхары, частку выдзеліла праўленне саўгаса "Манькавіцкі" Столінскага раёна.

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2606.
Падпісана да друку 16.10.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).